— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

5 ЛІПЕНЯ 1996 г. № 27 (3851) Кошт 2 500 руб.









# СЛОВА І ПЕСНЯ ЧАЧОТА ЖЫВУЦЬ



*Шырока адзначана ў нашай краіне 200-годдзе з дня нараджэння аднаго з самых слынных сыноў Бацькаўшчыны, выдатнага паэта і фалькларыста Яна Чачота. На яго радзіме ў вёсцы Малюшчыцы Карэліцкага раёна адкрыты бюст песняра, прайшло тэатралізаванае свята "Талент, народжаны песняй", удзел у якім прынялі знакамітыя калектывы і вядомыя пісьменнікі. Асобныя моманты гэтых урачыстасцяў занатаваў наш фотакарэспандэнт Анатоль КАЛЯДА.*

Анонс

# ЗНОЎ ПА-НАД НАРАЧЧУ ПЕСНІ!

Сёння ўвечары ўрачыста адкрыецца рэспубліканскі фестываль харавога мастацтва "Пеўчае поле". Па даўняй традыцыі, якой ужо 43 гады, праходзіць гэтае свята ў нарачанскім краі, на Мядзельшчыне. Арганізатары — Міністэрства культуры, упраўленне культуры Мінскага аблвыканкома, Мядзельскі райвыканком — прапануюць удзельнікам і гасцям досыць насычаны падзеямі расклад трох фестывальных дзён. Тут і прэзентацыя харавых калектываў на маляўнічым беразе возера Нарач, і выступленні іх у здраўніцах, і сустрэчы ў вёсках. Будзе конкурс, у праграмах удзельнікаў якога мусяць гучаць і тры абавязковыя творы. Узначальвае конкурснае журы народны артыст Беларусі прафесар М. Дрынеўскі. Дарэчы, знакаміты народны хор пад ягоным кіраўніцтвам дае заўтра канцэрт духавой музыкі ў касцёле вёскі Кабыльнік. А яшчэ — будуць творчыя дыскусіі па праблемах харавога мастацтва, Купалле на возеры Мястра, тэатралізаваная ўрачыстасць з нагоды 52-й гадавіны вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх акупантаў. І нават тыя з гасцей, што не ўдзельнічаюць у канцэртах, змогуць набыць самабытны фестывальны сувенір, бо ў нядзелю на працягу трох гадзін будзе працаваць "Горад майстроў", дзе прадставяць свае вырабы народныя ўмельцы Віцебшчыны.

**С. Б.**

# НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі назваў работы, што дапушчаны да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне гэтых высокіх дзяржаўных узнагарод. Сярод іх па раздзеле "У галіне навукі" значацца: "Мастацтва Беларусі XII—XVIII стст." Н. Высоцкай, "Слоўнік народнай мовы Мсціслаўшчыны" Г. Юрчанкі, а Л. Дробаў, Я. Сахута, В. Жук, П. Карнач, П. Масленнікаў вылучаны за цыкл работ "Гісторыя беларускага мастацтва".



Варункі

# "Э. М."

**Калі думаеш пра сёлетнія веснавыя падзеі ў Мінску, дык паралелі самі прыходзяць у галаву. Не адзін жа Гаўрыла ў Полацку... Скажам, Бразілія ўвосень 1968 года так нагадвала сённяшнюю Беларусь.**

**Ля ўлады стаялі вайскоўцы. З патрабаваннем аб аднаўленні дэмакратычных свабод прайшла хваля дэманстрацый у Рыю дэ Жанейра. Пачалі баставаць студэнты. Актыўна запрацавала парламенцкая апазіцыя. Узнялі галаву здушаныя ўладамі прафсаюзы. Супраць апазіцыі было выкарыстана спецпадраздзяленне бразільскай авіяцыі ПАРАСАР.**

**Яго асноўная задача заключалася ў падаўленні дэманстрацый. Жаўнеры ПАРАСАР, пераапранутыя ў цывільнае, змешваліся з дэманстрантамі, выяўлялі і запаміналі актывістаў, каб потым нейтралізаваць іх. Калі ж дэманстрацыі праходзілі спакойна, яны павінныя былі ствараць беспарадкі, біць вітрыны, кідаць камяні ў паліцыю, каб даць нагоду для разгону дэманстрацый.**

**Апошнія бяскрыўдныя, на першы погляд, заявы ўладаў пра недахоп уласнай каталажкі, дзе яны без суда маглі б трымаць крымінальных злачынцаў (ну чаму толькі крымінальных), таксама мае бразільскую паралель. У 1960 годзе губернатарам Рыю стаў Карлас Ласерада, які цэліў у прэзідэнты і першачарговай задачай для сябе вызначыў навядзенне парадку на вуліцах сталіцы. Па ягоным загадзе "варанкі" збіралі жабракоў, вывозілі іх за горад, і там знішчалі іх.**

**У 1958 годзе ў Бразіліі была створана "Спецыяльная паліцыя", якую выкарыстоўвалі для разгону дэманстрацый, арышту палітычнай апазіцыі. У яе адбіраліся лепшыя паліцыянты, падрыхтаваныя для выканання любых загадаў. Менавіта з яе вырасла найбольш злавесная арганізацыя — "Эскадрон смерці", які не толькі затрымліваў "дзяржаўных злачынцаў", але й без суда выконваў свае вырокі, пакідаючы на трупах метку з літарамі "Э. М." (эскадрон механізаваны, альбо muerte — смерці).**

**Пачаўшы з крымінальных злачынцаў, яны перайшлі на палітычных апанентаў. Гінулі прафсаюзныя дзеячы, апазіцыянеры. Былы дэпутат бразільскага парламента Рубенс Пайене быў арыштаваны ва ўласным доме і знік без следу (не толькі на Беларусі не любяць былых дэпутатаў).**

**Скандал з "Э. М." разгарэўся толькі тады, калі за адну ноч было забіта 12 чалавек.**

**Паліцыю "адмазваў" сакратар па бяспецы. Губернатар Сан-Паўлу заявіў, што "чуткі аб "Эскадроне" з'яўляюцца пустой выдумкай газетчыкаў, якія імкнуцца зняважыць добрае імя паліцыі, якая ўвесь час клапоціцца аб спакоі бразільскай нацыі".**

**А што ж грамадства? 8 з 10 паліцыянтаў, як сведчыць апытанне, лічылі дзейнасць "Э. М." карыснай. Той самай думкі прытрымліваліся 46 працэнтаў грамадзян. Адбылося прывучэнне грамадства да беззаконнасці, да ігнаравання суда, да права сілы на хуткую расправу. І гэта самыя прыкрыя вынікі дзейнасці "Э. М.".**

**За апошнія некалькі гадоў на Беларусі ўзнікла дастаткова шмат сакрэтных і напаўсакрэтных груп спецпрызначэння тыпу "Алмаз", "Альфа", не кажучы ўжо пра АМОН, якіх выкарыстоўваюць для разгону дэманстрацый... І вось ужо з'яўляюцца "невядомыя", якія збіваюць дэпутатаў, нападаюць на жонку журналіста, а міліцыя страляе па дэпутацкай машыне...**

**Вельмі ж не хацелася б, каб і ў нас падзеі развіваліся па бразільскім варыянце.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# ПАЛЫНОВАЙ ЗЯМЛІ ДЗІВАСІЛ

## НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ ПРАЙШЛІ ДНІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ВЫХАДУ Ў ВЫДАВЕЦТВЕ "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА" КНІГІ "ПРАЙСЦІ ПРАЗ ЗОНУ"

Як голас сумлення, якое не можа драмаць, калі над краінай адчуваецца гаркавы прысмак радыяцыі... Як голас душы, спакутаванай па праўдзе... А яшчэ як голас народнай бяды (а менавіта так — "Голас народнай бяды" — назваў да яе сваю прадмову народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін) успрымаецца гэтая кніга, пра якую ўжо даводзілася пісаць адразу пасля выхаду яе сігнальнага экземпляра, у тыя дні, калі паўсюдна адзначалася скрушнае 10-годдзе з дня чарнобыльскай катастрофы і да якой нельга не вяртацца зноў і зноў. Трэба вяртацца! Бо гэта кніга — грамадзянскі ўчынак. Гэта кніга — чарнобыльскі дакумент, хай шмат якія творы, змешчаныя на яе старонках, і з'яўляюцца мастацкімі. Дакумент, таму што тое, пра што расказваецца, не прыдумана, не народжана шчодрай аўтарскай фантазіяй, а ўзята з самога жыцця. З паслячарнобыльскага жыцця! А яшчэ, што немалаважна, убачана пісьменнікамі, навукоўцамі падчас іх асабістага праходжання праз зону. Яшчэ да таго, як да такой цяжкой, пакутнай і гэткай патрэбнай дарогі яны запрасілі чытача. Цалкам апраўдана, што гэтая свайго роду чарнобыльская анталогія выклікала такі шырокі грамадскі рэзананс. Ужо адбылося некалькі прэзентацый зборніка. Наперадзе — яшчэ шэраг. Аднак Дні беларускай літаратуры на Гомельшчыне, прысвечаныя выхаду кнігі "Прайсці праз зону" не было чарговым мерапрыемствам з ліку іншых. Яны проста не маглі не адбыцца там, дзе прайшлі — у Мазырскім, Хойніцкім, Брагінскім і Нараўлянскім раёнах. Гэта ж раёны — "чарнобыльскія". І калі на Мазыршчыне ўздзеянне "мірнага атама", на шчасце не такое адчувальнае, дык што казаць, для прыкладу, пра Брагінскі раён, калі нават у самім Брагіне ўзровень радыяцыі такі высокі, што двойчы праводзілася адсяленне. На сённяшні дзень — толькі ўдумайцеся ў гэтую лічбу! — у самім раённым цэнтры пустуе ажно 500 дамоў, а 200 з іх патрабуюць тэрміновага зносу. Ды і сама зона, уваход у якую адгароджвае звыклы ў тутэйшых мясцінах шлагбаум, пачынаецца амаль ля самага Брагіна. А Нараўлянскі, Хойніцкі раёны?

І ўсё гэта наша, беларуская зямля! Часцінка Радзімы, як куток Бацькаўшчыны:

**Кут мой забыты, безабаронна**
**Зорыш пагаслых крыніц вачыма.**
**Некаму ты —**
**Ачужэлая зона,**
**Сэрцу майму ты да скону —**
**Радзіма!**

Пад гэтымі радкамі М. Мятліцкага могуць падпісацца многія, хто таксама, як і ён, родам з мясцін, якія цяпер называюць радыяцыйнымі. Як і ўсе тыя, хто жыве на забруджанай тэрыторыі. І часам не толькі таму, што няма куды выехаць, а яшчэ і з-за таго, што аніяк не хочацца пакідаць "малую радзіму", бо яна, радзіма гэтая, калі па-сапраўднаму любіш яе, ніколі не бывае малой.

М. Мятліцкі і стаў адным з ініцыятараў правядзення гэтых Дзён. Яго прапанову ўхваліў дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" С. Андраюк, а галоўнае паразуменне было знойдзена ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь. Міністр І. Кенік, які ці не лепш за іншых ведае, што значыць на сённяшні дзень паспяховае вырашэнне чарнобыльскіх праблем, ахвотна пайшоў насустрач. А паколькі ў самога спраў вельмі шмат, дык даручыў арганізацыйныя моманты ўзяць пад адказнасць свайму памочніку В. Протчанку. А Валерый Захаравіч — душа чалавек. Таму не толькі даручэнне выконваў, а і сам праявіў вялікую зацікаўленасць, каб Дні сталі не проста чарговым, няхай і важным мерапрыемствам, а дапамаглі жыхарам чарнобыльскай зоны адчуць маральную падтрымку. Праз мастацкае слова, прамоўленае шчыра. Праз кнігу, якая варта таго, каб пра яе ведалі. А, як вядома, сёння з паступленнем літаратуры ў глыбінку, тым больш у чарнобыльскія мясціны, вялікія цяжкасці. Таму і вырашана было ўзяць з сабой некалькі соцень экземпляраў зборніка, каб падарыць яго школам, бібліятэкам. А яшчэ была ўлічана адна важная акалічнасць — у так званай 30-кіламетровай зоне знаходзяцца і родныя мясціны народнага пісьменніка Беларусі, вялікага песняра Палесся, творцы з сусветным імем Івана Мележа. Таму выдавецтва "Мастацкая літаратура" выдзеліла для Дзён кнігі Івана Паўлавіча "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Завеі, снежань...", якія таксама было вырашана падарыць, у тым ліку і музею І. Мележа ў яго родным Глінішчы.

Адкрыццё Дзён адбылося ў Мазырскім педагагічным інстытуце. У актавай зале сабраліся студэнты, выкладчыкі. Да прысутных звярнуліся ці не ўсе

*(Працяг на стар. 4)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## ЯГО ПЕСНІ ЛІЧАЦЬ НАРОДНЫМІ



**Нядаўна грамадскасць Брэста адзначыла 40-годдзе творчай дзейнасці заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь Сяргея Фёдаравіча Любчука і пятнаццацігоддзе яго калектыву — народнага ансамбля песні і танца "Бярэсце". Гэта, дарэчы, другі калектыў, створаны Любчуком у Брэсце. Першы — вядомы "Брастаўчанка". Цудоўны мастацкі кіраўнік, аранжыроўшчык, педагог, ён яшчэ і вядомы кампазітар. Сяргей Фёдаравіч напісаў каля сотні песень, многія яго творы выконваюцца часта як народныя. Гэта аўтара толькі радуе — значыць, народам прыняты.**

*На здымку: Сяргей Фёдаравіч Любчук і яго выхаванцы.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## І Ў ГЛЫБІНЦЫ РАСТУЦЬ ТВОРЦЫ



**Школа мастацтваў племзавода "Рось" Ваўкавыскага раёна — адна з лепшых на Гродзеншчыне. Сёлетняй восенню ёй спаўняецца 10 гадоў. Многія выпускнікі школы сталі класнымі музыкантамі і мастакамі. Цяпер тут навучаюць на фартэпіяна, баяне, скрыпцы, цымбалах, домры, адкрыта харэаграфічнае аддзяленне, дзе вучаць мастацтву танца, на мастацкім аддзяленні дзеці пачынаюць маляваць, рабіць скульптуры, ляпіць. Многія навучэнцы выстаўлялі свае работы на выставах, удзельнічалі ў аглядах мастацкай самадзейнасці.**

*На здымку: юныя мастакі пад кіраўніцтвам педагога Уладзіміра Барыева адбіраюць работы на чарговую выставу.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## ХРАМ — ПІЎБАР — СТАЛОВАЯ — ХРАМ



**"Белая царква" — так называлі храм вялікага пакутніка Георгія Перамаганосца ў Бабруйску заўсёды. Нават тады, калі ў ім размяшчаліся піўны бар, а потым сталовая. Сёння ж храм набывае свой першапачатковы выгляд, пры ім будуць працаваць бібліятэка, памяшканні для хрышчэння.**

*На здымку: храм Перамаганосца ў Бабруйску.*

# ПАЛЫНОВАЙ ЗЯМЛІ ДЗІВАСІЛ



*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

ўдзельнікі паездкі, а гэта ўжо згаданыя С. Андраюк, М. Мятліцкі, а таксама С. Законнікаў, А. Пісьмянкоў, М. Башлыкоў, С. Лобач, Н. Рыбік, С. Явар, К. Жук і іншыя. Многія выступоўцы нагадвалі заключныя радкі з прадмовы І. Шамякіна да кнігі. Не маглі яны не прамаўляцца ў гэтай зале, не прыгадвацца і на розных іншых сустрэчах: "Сягоння ўсёй нашай літаратуры патрэбна "прайсці праз зону" і вярнуцца поўнай творчых сіл, каб надаць народнай трагедыі шырокі сусветны розгалас, паспрыяць пазбыцца яе жахотных наступстваў, сагрэць увагай спакутаванае, чалавечае сэрца".

Былі і выступленні мазырскіх выкладчыкаў Г. Дашкевіч, Л. Прашковіч, Н. Аксёнчык і іншых. Яны таксама поўніліся чарнобыльскай трывогай (як слушна сказала наконт гэтага Н. Аксёнчык: "Мы знаходзімся не пад Скарынавым сонцам, а пад зоркай Чарнобыля"), але ў іх прысутнічала і думка, што якой бы цяжкой ні была рэальнасць, а жыць трэба. І не проста жыць, а і дбаць аб пабудове беларускага дома. Таму і закраналіся ў выступленнях матывы нацыянальнага Адраджэння, гаварылася аб захаванні роднай мовы, аб паважаным стаўленні да яе. Тым самым Дні літаратуры як бы і выходзілі за межы сваёй асноўнай тэматыкі. Ды гэта зразумела і цалкам апраўдана. Мы не проста павінны выжыць у складаны і цяжкі час, а выжыць менавіта беларусамі. З усведамленнем сваёй нацыянальнай годнасці. З разуменнем багатай гісторыі. З упэўненасцю, што калі штосьці не можа зрабіць невялікая суполка людзей, дык гэта па сіле ўсяму народу, усёй нацыі. Пры адной, безумоўна, умове: калі народ не будзе забывацца аб уласных каранях, вытоках.

А якраз пра гэта і нагадваў у сваіх творах, найперш у знакамітай "Палескай хроніцы" І. Мележ. Дарога ў Глінішча — стала і магчымасцю прайсці, праехаць сцежкамі мележаўскіх герояў. Проста дзіву даешся, наколькі добра ведае М. Мятліцкі творы свайго знакамітага земляка. На якую гадзіну ператварыўшыся ў гіда, ён падрабязна расказваў пра герояў раманаў, згадваў іх прататыпаў, называў тыя населеныя пункты, адкуль яны родам. Ды і не толькі пра вёскі расказваў. Для яго ж у тутэйшых мясцінах усё да болю знаёмае, блізкае, бо неаднойчы наведваўся ён і ў Глінішча, і ў суседнія вёскі. Як і ў Юравічы таксама. Праўда, гэта ўжо тэрыторыя Калінкавіцкага раёна. Туды не маглі не заехаць ўдзельнікі Дзён! Як не маглі і не пазнаёміцца у мясцовай школе з музеем, у якім сабрана вельмі шмат унікальных экспанатаў, якія тычацца гісторыі не толькі самога мястэчка, а і Беларусі ўвогуле. Справа ў тым, што непадалёку ад Юравіч археолагі знайшлі найстаражытнейшую стаянку першабытнага чалавека на тэрыторыі нашай дзяржавы. Жылі тут людзі 20—25 тысяч гадоў да нашай эры.

І ўсё ж уражанне ад наведвання музея І. Мележа ў Глінішчы было не менш прыемнае. Тым больш, што многія з удзельнікаў Дзён упершыню завіталі сюды. А паколькі сярод іх былі і тыя, хто меў мажлівасць неаднаразова сустракацца з Іванам Паўлавічам, дык і прагучалі ўспаміны пра гэтага выдатнага пісьменніка і чалавека. Асабліва прачула гаварыў, як шмат значыў І. Мележ у яго лёсе, наколькі дапамог яму ў цяжкія хвіліны Г. Шупенька.

За дзень жа да наведвання мележаўскіх мясцін была іншая паездка — у Бабчын М. Мятліцкага. У вёску, што даўно не чуе чалавечага голасу. У вёску, пра якую,бадай, ведаюць усе аматары беларускай паэзіі. Бо пра родны Бабчын М. Мятліцкі пранікнёна расказаў у многіх сваіх вершах, найперш тых, што змешчаны ў яго кнізе паэзіі "Палескі смутак", а яшчэ і тых, якія ўвойдуць у новы зборнік. З асобнымі з іх чытачы мелі мажлівасць пазнаёміцца па публікацыях у "ЛіМе", "Народнай газеце", па радыё, рыхтуюцца да друку вялікія падборкі ў часопісах "Полымя", "Маладосць", іншых выданнях. А ў хуткім часе і сама кніга выходзіць у выдавецтве "Мастацкая літаратура". "Бабчын" — назва яе. Як і некаторыя ранейшыя вершы, так і многія з новых пісаліся ў матчынай хаце. У маўклівай, магільнай цішыні пісаліся. Адзін на адзін з самотай і адзінотай. Калі паэт, прыехаўшы чарговы раз у Бабчын, заставаўся тут на ноч-другую. Сам-насам з думкамі сваімі. Сам-насам з трывогай. І сам-насам з жаданнем гаварыць праўду пра Чарнобыль, пра сваіх землякоў, а, адштурхоўваючыся ад іх лёсаў, і праз лёс усёй Беларусі...

Параслі пустазеллем сцежкі маленства... У чалавечы рост буяе яно і ля роднай хаты. А яна маўкліва глядзіць пустымі аканіцамі на тых, хто завітаў сюды. Быццам паскардзіцца хоча на свой лёс. Як і іншыя хаты, што стаяць абапал калісь гаманкой бабчынскай вуліцы.

Скупая мужчынская сляза кропляй сцякае на твары Міколы. Камяк падступае да горла кожнага. А Я. Хвалей прыгадвае, як за які год да чарнобыльскай катастрофы гасцяваў у М. Мятліцкага. Надвор'е тады было слотнае, у дарозе прамерзлі, дык адразу забраліся на печ... А цяпер печ вось-вось гатова разваліцца, правісла ў хаце столь... І толькі як напамінак аб тым, што дзесяць гадоў назад тут жылі людзі, — начоўкі ля самага акна...

— Мяне немаўлём купалі ў іх, — на твары М. Мятліцкага з'яўляецца ледзь прыкметная ўсмешка. Ён на нейкае імгненне забывае, дзе знаходзіцца: "А што, калі забраць іх?". Але ўсмешка як неўспадзеўку з'явілася, гэтаксама нечакана знікла. Суровая рэальнасць напамінае аб сабе:

**Сухавеем пабіты, дажджамі нябёс,**
**Жоўты цвет на сцяжынах маленства парос,**
**Адбіраючы вочы таемнай красой,**
**Мыты самаю чыстай, сцюдзёнай расой,**
**Жоўты цвет...**
**Ля бяроз... Ля панылых магіл.**
**Дзівасіл...**
**Адзічэлай зямлі дзівасіл...**

Чэрвень — самы пачатак цвіцення дзівасілу. І сям-там ля вуліцы яго жаўтаватыя кошыкі паспелі распусціцца. Якраз у гэты час і пачынаюць зрываць сцяблiны, каб выкарыстоўваць у якасці лекаў ад шмат якіх хвароб. І зрывалі, і засушвалі. Але то да Чарнобыля, а цяпер...

**Я знайшоў адзінотны, жаўцяны твой цвет.**
**Жоўта-жоўта зірнуў гэты ядзерны свет,**
**Промнем хіжым крануўся аціхлых палёў,**
**Ў косы смутных бяроз**
**стужку зыркую ўплёў.**
**Залачаў ад яго стромы прыпяцкай схіл.**
**Дзівасіл...**
***Адзіноты маёй дзівасіл...***

Развітанне з хатай, як развітанне з чалавекам... Калі яшчэ давядзецца спаткацца. І ўсё ж, хаты не людзі, яны нават і памерлыя могуць прыняць гаспадара. Праўда, калі вёскі яшчэ не пахаваны. У гэтым сэнсе Бабчын "жыве", а побач з вёскай знаходзіцца Прыпяцкі радыяцыйны запаведнік. Працуюць вучоныя, спрабуючы разгадаць, да чаго яшчэ можа прывесці радыяцыя, назіраюць за жыццём жывёл, раслін у чарнобыльскай зоне. А колькі вёсак на Беларусі даўно засталіся пад зямлёй?! Засыпаны ёю, каб тым самым хоць неяк паменшыць уздзеянне радыяцыі на ўсё жывое ў наваколлі. У Хойніцкім раёне, праўда, пахавана ўсяго адна вёска, а ў Брагінскім — сем. З шэрагу іх і Пецькаўшчына... Аб тым, што тут некалі жылі людзі, нагадвае невялікі слупок. На ім пазначана назва населенага пункта, засведчана, што тут было 29 двароў, жыло 85 чалавек. Людзей адсялілі, а вёску ў 1987 годзе пахавалі.

Дзевяць гадоў мінула, а калі б не гэты слупок, дык наўрад ці можна было здагадацца, што не так даўно тут жылі людзі. Хіба што аб гэтым яшчэ нагадваюць паваленыя, вялізныя дрэвы, ды здзічэлыя яблыні, на асобных з якіх сустракаюцца лістота памерам з... далонь. І ўвогуле, у тутэйшых мясцінах прырода жыве ў больш імклівым, раней нябачным рытме. Паблізу ад дарогі можна было ўбачыць статак дзікоў, а калі ехалі назад, дык, нікога не баючыся, на ўзбочыне сядзела ліса...

Удзельнікі Дзён абавязкова наведваліся да мясцовых улад. У прыватнасці, адбылася цікавая гаворка са старшынёй Хойніцкага райвыканкама А. Акушкам. Дзякуючы Алегу Рыгоравічу, у раёне робіцца вельмі шмат, каб хоць неяк аблегчыць жыццё людзей. Не абыдзены ўвагай і праблемы культуры. Прынамсі, была аказана падтрымка ў правядзенні выставы твораў У. Гардзеенкі. Уладзімір Цітавіч — тутэйшы, нарадзіўся ў вёсцы Клівы. І не месяц, не два знаходзіцца ў родных мясцінах. Вынікам гэтых кантактаў з землякамі і сталі многія яго творы, у тым ліку і тыя, што выкарыстаны ў якасці ілюстрацый да кнігі "Прайсці праз зону". У. Гардзеенка прымаў самы актыўны ўдзел у правядзенні Дзён. А пасля запрасіў пазнаёміцца са сваёй выставай. Праўда, у гэты дзень адбывалася закрыццё экспазіцыі. Ды ўсё ж мы выкарысталі мажлівасць далучыцца да твораў, напісаных пэндзлем мастака, які, як і пісьменнікі, "прайшоў праз зону", каб сказаць так патрэбную сёння праўду пра Чарнобыль і яго наступствы.

Сярод удзельнікаў Дзён знаходзілася і прэзідэнт дзіцячага фонду "Сакавік" М. Міцкевіч. Марыю Міхайлаўну надзіва цёпла сустракалі прысутныя. Не ў апошнюю чаргу і таму, што гэтая сімпатычная маладая жанчына з'яўляецца ўнучкай народнага песняра Якуба Коласа. Але М. Міцкевіч ці не больш з іншых удзельнікаў паездкі працавала, а калі канкрэтней, дык вырашала, каго з дзяцей сёлетнім летам накіраваць за мяжу на аздараўленне. І вынікамі паездкі засталася задаволена. Да той тысячы дзяцей, якіх фонд "Сакавік" сёлета ўзяў пад сваё крыло, дабавілася яшчэ больш за 20 хлопчыкаў і дзяўчынак. Паедуць сем чалавек на аздараўленне з Брагінскага раёна і 14 з Юравіч.

Былі яшчэ шмат якія сустрэчы — і ў Хойніках, і ў Брагіне, і ў Нароўлі. І падчас кожнай сустрэчы адбывалася прэзентацыя кнігі "Прайсці праз зону". Наведаліся ўдзельнікі і да Прыпяці, ад якой да Чарнобыля кіламетраў сем. Кожная чарговая сустрэча — і дзесяткі пакінутых экземпляраў, якія ж, канечне, не застануцца незапатрабаванымі. Ды і як жа інакш, калі падобнай літаратуры так не стае, а яна гэткая неабходная. Як няма і сумнення, што калі пачнецца новы навучальны год, па ёй настаўнікі правядуць і літаратурныя вечары, і канферэнцыі. Гэта ж не проста кніга, а кніга (дарэчы, як і іншыя чарнобыльскія зборнікі, а яны выходзілі і ў той жа "Мастацкай літаратуры"), што пачынае па сутнасці паслячарнобыльскую старонку ў нашай літаратуры. Лепш бы, зразумела, каб яе не было. Але калі ёсць, дык і трэба ставіцца да яе з належнай увагай.

Што і засведчылі Дні літаратуры на Гомельшчыне. А яшчэ яны пераканалі, што для сумленных творцаў на гэтай ніве, як кажуць, шырокае поле дзейнасці. Асабліва, калі прадстаўнікі розных жанраў аб'яднаюцца. А аб'ядноўвацца ёсць дзеля чаго і ў імя чаго.

Верыцца, што з цягам часу стане папулярнай песняй "Дзівасіл" М. Мятліцкага. А ў час паездкі яна гучала неаднакратна. С. Лобач брала ў рукі мікрафон і спявала тое, што знаходзіла водгук у сэрцы кожнага:

**Так замётна шугаюць былыя гады.**
**Я па сцежцы знаёмай вярнуўся туды,**
**Дзе бусліныя крылы — у высях святла,**
**Дзе шчаслівая казка трымцела-жыла,**
**Колькі гора чутно мне з узмахамі крыл!**
**Дзівасіл...**
**Палыновай зямлі дзівасіл.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Мінск — Жлобін — Хойнікі — Брагін — Нароўля*

*Фота А. САБАДАША*

# ІМЯ МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА



**У Віцебску адкрылася новая бібліятэка — імя Міхася Лынькова. Яе кніжны фонд складае больш за 36 тысяч кніг, а першымі наведвальнікамі сталі юныя жыхары горада. На прэзентацыю бібліятэкі яны выставілі выявы казачных персанажаў, любімых герояў.**

*На здымку: у адной з залаў бібліятэкі.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА,*
*БЕЛТА*

# ПРАЦЯГ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Секцыя перакладу і сувязяў СП Беларусі правяла яшчэ адно сумеснае пасяджэнне з Біблійнай камісіяй Беларускай праваслаўнай царквы і выдавецкім аддзелам Беларускага праваслаўнага брацтва св. Віленскіх Мучанікаў. Як і раней, парадак дня вызначаўся пытаннямі перакладу Святога Пісьма, Богаслужбовых і багаслоўскіх тэкстаў на сучасную беларускую мову.**

**Практычная частка прадугледжвала абмеркаванне "Малітваў перад споведдзю", якія пераклаў протаіерэй Сергій Гардун. Калектыўную працу на месцы, аднак, правесці не ўдалося. Пісьменнікі-перакладчыкі палічылі за лепшае ўзяць, як і ў выпадку з "Малебнам за беларускі народ", "хатняе заданне", выканаць яго належным чынам і да 15 ліпеня "здаць" старшыні бюро секцыі абодва тэксты. Вядома, з заўвагамі, удакладненнямі, сваімі прапановамі.**

**Заканамерна, што асноўная ўвага была прысвечана пошуку надзейных метадалагічных прынцыпаў, у першую чаргу — адмаўленню ад шматварыятыўнасці перапамачэння асноўных тэалагічных паняццяў, апірышчных тэрмінаў, якія патрабуюць па меншай меры зыходна правільнага разумення. Адпаведна, размова ішла пра неабходнасць як мага актыўней і адказней рыхтаваць "Царкоўнаславянска-беларускі слоўнік", выдаць які плануе Брацтва св. Віленскіх Мучанікаў сумесна з Біблійным таварыствам РБ. Што гэта значыць, нашы перакладчыкі добра ўсведамляюць. Бо, пэўна ж, неаднойчы даводзілася пакутаваць, сутыкаючыся з задачай, як асучасніць ды абеларусіць спадчынную сакральную моўную стыхію. Таму ў кожнага ёсць пэўны вопыт, некаторыя свае падыходы, а то і цікавыя знаходкі.**

**Разуменне выклікала прапанова старшыні брацтва М. Матрунчыка наладзіць міжнародны семінар "Пераклад Святога Пісьма на сучасныя славянскія мовы" ў канцы гэтага года.**

**І. Ч.**

# З БАГАТАЙ СКАРБНІЦЫ

**Выдавецтва "Юнацтва" надае вялікую ўвагу выпуску для дзяцей лепшых фальклорных твораў. Найчасцей яны падаюцца, зразумела, у літаратурнай апрацоўцы, каб хлопчыкі і дзяўчынкі маглі лепш пазнаёміцца з імі. Пацвярджэнне таму і чарговая кніжка — "Вужовы кароль". У зборнік уключаны лепшыя ўзоры беларускіх народных легенд і паданняў, узятых з вядомых фальклорна-этнаграфічных зборнікаў Е. Раманава, А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага, П. Шэйна, а таксама выкарыстаны сучасныя запісы. Укладальнік кніжкі У. Ягоўдзік. Ён жа і пераказаў для дзяцей гэтыя творы, а ў выніку з'явіліся цікавыя гісторыі, дзякуючы якім можна даведацца пра навакольны свет і аб насельніках, пра паходжанне назваў некаторых рэк, азёраў, населеных пунктаў.**

*Віншуем!*

# БЫЦІЙНЫ СЭНС І СМАК ЖЫЦЦЯ

## Уладзіміру НЯКЛЯЕВУ — 50

"О, якое Яно непазнавальнае і цёмнае", — пазначаюць Сакральнае, Галоўнае Упанішады. Пра "ззяючую цемру" Боскай Сутнасці вялі гаворку каппадакійскія Айцы Царквы Васіль Вялікі, Грыгорый Багаслоў, Грыгорый Ніскі. А нямецкі містык XIV стагоддзя Таўлер гаварыў: "Яно ёсць і завецца Нявыяўленай Цемрай, а між тым Яно — Святло Сутнаснае".

Хто з тых, для каго Боская Сутнасць — аснова асноў, не задумваўся над гэтым пытаннем? Непазнавальнае, па-за межамі спасціжэння і ведаў... Задумваліся і тыя, хто адстараняўся ад пытанняў чыстай артадоксіі і прасталінейнасці, і тыя, хто атэізм спавядаў (тым больш, што атэізм лічыўся незадоўга афіцыйнай і адзінай формай грамадскай свядомасці), але найбольш — тыя, хто хоча даведацца лучнасці "Духу

Сённяшні Уладзімір Някляеў адначасова ясны і няўлоўна-непраяснены, жорсткі і мяккі, філасафічны і наіўна-лірычны, фальклорна-шматзначны і таямнічы, заангажаваны ў часе і вольны ад яго.

**Калі ты паэт ці калі ты званар,**
**Ты лішні і вольны.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Усё тваё там, тут нічога твайго,**
**Ты сведкаю толькі**
**Нябытнасці свету, вар'яцтвам яго**
**Ад бойкі да бойкі.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Мітынговыя вуліцы,**
**поўныя ярасцю плошчы**
**Я пакіну аднойчы**
**і рушу да возера Прошчы...**

...Новыя паэмы — "Возера Прошча", ужо названая "Індыя", "Саракавіны". Амаль

плячыма — тэхнікум сувязі, праца на Далёкім Усходзе і на Поўначы, у Мінску, завочны педінстытут. А ў момант выхаду кнігі ён быў студэнтам-завочнікам Літаратурнага інстытута.

Быў і рэальны капітал малодых сіл, і назапашаны псіхалагічны, разумовы, эмацыянальны вопыт. Быў момант, калі яшчэ, па інерцыі лічыліся маладымі і шасцідзесятнікі, а з новай хвалі паэзіі найбольш прыкметнымі былі жанчыны; творчы ж кірунак Алеся Разанава адасоблена вызначаў яго права на равесніка вечнасці, сцвярджаючы, што паэтычная філасофія жыве "этыкай космасу" (І. Растоўцава), а не метафарычнай інструментоўкай.

Уладзімір Някляеў — адначасова напорысты, імклівы і стрымана-эмацыянальны, з усім арсеналам рамантыкі далёкага і блізкага



мудрасці і розуму, Духу рады і моцы, Духу ведання і богабойнасці".

Мастак, творца — імкнецца знайсці свой варыянт далучэння да таямніцы, Сустрэчы з высокім.

Уладзімір Някляеў абірае для свайго дакткнення да Таямніцы Індыю — ці то пад уплывам падарожжа, ці то пад знакам знаёмства з трактатамі веданты, ці то ад магнетычнага ўздзеяння высноў Рэрыха... І мастацкае ўвасабленне думкі паэта тут ніяк не накіраванае на пэўны вынік, на канкрэтны адказ на пытанні, тым больш на мізэрна-побытавы "здравый смысл". Хаця Уладзімір Някляеў надае зусім канкрэтызаваны выгляд і сэнс эгацэнтрычнай адстароненасці героя адной са сваіх новых паэм "Індыя": "Марыя, калі я памру, Ты скажаш, што там? — Дзе? — У Бога. — Нічога там — адна дарога, Ды зор ахвярнае святло".

"Хто мы ў Сусвеце?" "Хто ў Вечнасці мы?" "Дык як на вечнай сцэне быць сабой, Не слыць, а жыць, не рынуцца ў разбой, У гвалт, у закулісныя аферы?.."

Пытанні, пытанні... І мы можам прачытаць у іх адчуванне Боскай першапрычыны, а можам — і не. Можам адчуць пантэістычную прычынна-выніковую неабходнасць (паводле Спінозы), а можам — і не. Можам адчуць сартраўскае адчуванне таго, што ўсё прыроднае рыхлае, "інертнае" і бесструктурнае, і толькі свядомасць чалавечая надае рэчам значэнне, а можа, і не...

што літаратурна-эстэтычны маніфест — у першым нумары новай "Крыніцы":

"Адчуванне, што літаратура сталася марнай, непатрэбнай нават самой сабе, — наўрад ці ў мяне аднаго.

Не ў аднаго мяне асцярога, што ўжо зараз літаратурныя выданні ахопліваюць спусцелую прастору. А тут яшчэ адзін часопіс, фактычна новы...

Дзеля чаго?

Асабіста — дзеля таго, каб тое, чым жывеш, хоць вектарна супадала з тым, што робіш, каб займелася воля адольваць марнасць і пустату. Жыць, звыкаючыся з імі, немагчыма, калі літаратура — спосаб існавання.

Ён аказаўся не з найлепшых — у цьмяным часе на скамечанай прасторы. У папярэднікаў прастора існавання звузілася да спробы, у наступнікаў — да безвыходнасці. Зноўку, як фантом, як міраж у пустэчы, паўстаюць гістарычныя мэты і задачы, але ўжо ведаеш, што гісторыя не мае мэты. Ёсць толькі гістарычны кантэкст, цьмянасці, шыфры і згадкі якога ўдакладняюцца найперш літаратурай. Так наканавана, гэткае ў нас светаадчуванне, стан. Можна вагацца, добра яно ці не, але мы — вярбальная нацыя, нацыя Слова".

Вярбальная нацыя... У кантэксце гісторыі...

Вось недзе ў гэтым кантэксце ў гэтай нацыі на пачатку 70-х з'явіўся новы паэт. І выдаў у 1976 годзе першую кніжку. "Адкрыццё". Памятаю сваё асабістае ўражанне ад зборніка — сапраўды, не толькі па назве — адкрыццё. На той момант у "ЛіМе" я была не ў фаворы (час ад часу такое здараецца, нават і ў дэмакратычны час: а тады галоўным крытыкам быў адзін вельмі ж рухавы літаратурны самазванец, хай яму зямля будзе пухам). Дык вось — накіравалася я ў "Вячэрні Мінск" — ён быў толькі што заснаваны і меўся брацы накірунак досыць ліберальны і размаіты. Давялося, праўда, рабіць не рэцэнзію, — агляд першай кнігі паэтаў за год. Самымі цікавымі былі Павел Марціновіч — ён пачынаў рана і хораша. І — Уладзімір Някляеў, з яго высокай энергіяй пачуцця, адсутнасцю вобразна-паняційнай анеміі, уменнем пазначыць і абстрагаваную, кандэнсаваную думку, і адчуць радасць звонкай кроплі імгнення.

"Паэзія — душы маёй анкета", "Склон прагі існавання. Склон назоўны", "Дай, маё сэрца, боль чужы ўведаць так, як боль уласны", "Глыбока ў студні боўтнецца вядро... Затархаціць пашчэпаная корба... Адзін глыток — і існе дабро, І жыць на свеце хораша і добра".

Першая кніга выйшла, калі Уладзіміру Някляеву было ўжо трыццаць год. За

— а рамантыка яшчэ мела сваіх адэптаў — з раздумліва-майстравітым скепсісам, у якім ужо адчуваўся надыходзячы час амбівалентных герояў 80-х — прыйшоў у пару. Яго заўважылі чытачы, калегі-паэты, крытыкі. Шырокая аўдыторыя. Гэтаму спрыяла і тая абставіна, што ён вылучаўся яркім артыстызмам у спалучэнні з добрым густам, адчуваннем мастацкай меры. Кажу пра гэта, таму што якраз тым часам Уладзімір Някляеў быў ці не самым галоўным героем тэлеэкрана Беларусі, калі весці гаворку пра літаратараў. Ён чытаў вершы, даваў інтэрв'ю, удзельнічаў у імпрэзах (хаця гэтае слова не было тады ва ўжытку). Для беларускай літаратуры факт неверагодна важны — "шырокія колы" нашых чытачоў ангажаваліся і ангажуюцца праз дадатковую рэкламу (раней мовілі — прапаганду). Тады — больш мастацкую, папулярызатарскую, сёння — яшчэ і палітычную. Але і раней, і зараз шырокая "чытацкая" аўдыторыя ствараецца шляхам тэлевізуальным.

Траекторыя поспеху паэта Уладзіміра Някляева была амаль вертыкальнай, яго нібыта запусцілі на арбіту славы і вядомасці. Прэмія Ленінскага камсамола, песні на яго словы, удзел у розных урачыстасцях... Сярод іх была і адна, якую яму раней ставілі ў найважнейшы плюс, часам апошнім — ледзь не патрабуючы ад яго пакаяння і пасыпання галавы попелам. Уладзімір Някляеў вітаў адзін з самых пампезных з'ездаў брэжнеўскай пары. Асабіста я стаўлюся да гэтага выпадку, цытуючы Уладзіміра Някляева, "у гістарычным кантэксце". Сама адносілася заўсёды да ўлад з асцярогай: "Минуй нас пуще всех печалей...", прэміі ні ў мінулым, ні ў будучым мне не пагражалі: нават калі каму і стрэліла ў галаву вылучыць, далей бюро секцыі не пайшло б — не той ранг, не той імідж. Дык вось — не памятаю, каб нехта адмовіўся на тую пару ад прэмій, прывілеяў, ганаровых званняў. Здаецца, толькі зараз Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч не прынялі ганаровых званняў акадэмікаў.

Апошнія гады мы былі сведкамі шматлікіх афектаваных адрачэнняў, адмаўленняў, пакаянняў. Уладзімір Някляеў не рабіў ніякіх тэатралізаваных жэстаў — хаця ўразіць аўдыторыю ён умее. Пераасэнсаванне сацыяльных, эстэтычных, этычных, ці, хутчэй, свядомасных каштоўнасцяў у яго адбывалася спаволна. Фіксацыі настрояў, пейзажныя замалёўкі, напорыстая публіцыстычнасць, назыўныя пабудовы асабістага парадку, падкрэслена сацыяльная грамадзянскасць (асабліва, мабыць, у паэме "Дарога дарог" — хаця і там ён спалучаў грамадскія рэаліі з рамантычнымі аксесуарамі быцця, вёў гаворку пра маральна суверэнную асобу), дык вось гэтыя матывы саступаюць месца роздуму быційнаму, паэта пачынае цікавіць

Уладзімір СКАРЫНКІН

## ЮБІЛЕЙНАЕ ПАСЛАННЕ УЛАДЗІМІРУ НЯКЛЯЕВУ

**Хоць час перавесці, як стрэлкі, назад**
**Ніхто з нас не можа,**
**Глядзішся, Валодзя, ты і ў пяцьдзесят**
**Прыгожа і гожа.**

**Табе падуладны і песня, і верш,**
**І прытча, і сага.**
**І ўсё-ткі цябе спапяляе найперш**
**Духоўная смага.**

**Каб смагу сваю наталіць, прышчапі**
**Душу да званіцы**
**І вадкасць святую пад зорамі пі**
**З нябеснай Крыніцы.**

**Хай водзіць Гасподзь у значэлай цішы**
**Тваёю рукою.**
**Дай, Божа, тваёй хрысціянскай душы**
**Любві і спакою.**

сутнасць з'яў, суадносіны паміж вечнасцю і імгненнем, быццём і небыццём. З'яўляюцца паэмы "Ружа вятроў", "Маланка", "Даведка аб нараджэнні", вершы "Мне трыццаць...", "Паляванне", "Семя", "Тураў", "Праводзіла з дому..." і інш. Права выбару, судачыненне сістэмы духоўных каштоўнасцяў і сістэмы ўчынкаў, галоўныя, карэнныя пытанні Быцця... Гэта пачынае вызначаць творчасць Уладзіміра Някляева. Ён застаецца самім сабою, рэвалюцыі, так бы мовіць, у яго паэтычным свеце не адбываецца, ён пераасэнсоўвае паняцці, не так пашыраючы дыяпазон мастацкіх сродкаў і прыёмаў, як жорстка абмяжоўваючы сябе засяроджанай стрыманасцю слова, кандэнсуючы змест, выяўляючы для сябе і для нас свой вобраз свету і сусвету, сваю канцэпцыю часу. Ставячы свае бясконцыя пытанні.

Новы час, новыя павевы паэт Уладзімір Някляеў адчуў і чыста эмпірычна, так бы мовіць. Арганізацыйна. Ён у 1987 годзе становіцца ініцыятарам стварэння маладзёжнага часопіса "Крыніца" і яго галоўным рэдактарам. Часопіс пачынае выходзіць на беларускай і рускай ("Родник") мовах. Уладзімір Някляеў выкарыстоўвае магчымасці наноў адкрытага выдання, магчымасці часоў перабудовы, абвешчанай галоснасці. Набірае штат, на які мала хто рызыкнуў бы на тую пару, запрашае аўтараў, якіх не ўсе кідаліся друкаваць.

Сярод супрацоўнікаў часопіса — Анатоль Сідарэвіч, з яго энцыклапедычнымі ведамі і літаратурным талентам, Леанід Екель і Міхась Кацюшэнка — з іх трывалай адміністрацыйна-наменклатурнай загартоўкай, і — "тутэйшыя" і "нетутэйшыя" літаратары "новай хвалі": Алесь Асташонак, Адам Глобус... Сярод аўтараў — больш прадстаўнікі прыгожага пісьменства той самай "новай хвалі": Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Пятро Васючэнка, Анатоль Сыс, Уладзімір Сцяпан... У кожнага — свой характар, свой гонар — зайздросная самапавага. Не Ноеў каўчэг, але, скажу вам, э-кі-паж...

На старонках часопіса з'яўляюцца і сур'ёзныя, а часам эпатуючыя артыкулы, і гарэзлівая інфармацыя, проза і паэзія, што сведчылі адначасова аб замаху і на геральдычную адзнаку "духоўнага пралетарыяту" (Б. Пастэрнак), і на ролю выбраннікаў рамяства. Эгацэнтрысты і прэтэндэнты на духоўнае ратаванне нацыі, эксцэнтрыкі думкі і акрабаты формы — аўтары "Крыніцы" зрабілі яго стракатым, пазнавальным, будзіруючым, папулярным сярод пэўных колаў. Але ўсё гэта трэба было сабраць, узяць на сябе рызыку, дабіцца на ўсё дазволу, адстаяць — яшчэ была цэнзура, былі шматлікія кіруючыя і назіраючыя арганізацыі, дзе галоўнаму рэдактару Уладзіміру Някляеву даводзілася аспрэчваць, адстойваць, пераконваць. Роля для яго была новай, але ён бліскуча яе выконваў. Часопіс — той — застаўся ў летапісе беларускага друку. І — па сутнасці страціў свой першапачатковы кірунак праз некалькі год. Можа, не вытрымаўшы цяжару самапавагі супрацоўнікаў і аўтараў, можа, таму, што час даў шырокія творчыя, арганізацыйныя і камерцыйныя магчымасці, і многія вырашылі выкарыстаць іх незалежна ад часопіса "Крыніца". Кожны развіваўся з той мерай разумення літаратурнага этыкету, якая была яму ўласцівая. Але гэта не датычыць маёй гаворкі.

І вось недзе на пачатку 94-га года пачалі хадзіць чуткі — "Крыніца" ўзнаўляецца ў новым выглядзе. Часопіс не пераставаў выходзіць, і перафармаваць яго, як кажуць, "на хаду", было, мабыць, нялёгка. Але зноў — набраць штат — гэтым разам з высокім, сталым літаратурным рэнамэ, аднак з не меншай самапавагай да сябе ў кожнага, узяць столькі літаратурных сапернікаў: на гэта мала хто рызыкнуў бы. Асабліва калі згадаць кепікі-жарцікі далёка не бяскрыўднага кшталту некаторых з яго надаўніх калег. Аднак Уладзімір Някляеў — рызыкнуў! І даў ім магчымасць ажыццяўляць свае ідэі, друкавацца, выяўляць сваю творчую асобу. Беларуская перыёдыка ведала бліскучы склад рэдакцый, новая "Крыніца" — безумоўна, явіла сабою сузор'е іменаў: сам Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Алесь Асташонак, Леанід Дранько-Майсюк, Юрась Залоска. Пайшлі з рэдакцыі Алесь Асташонак і Юрась Залоска — з'явіўся Леанід Галубовіч.

Новая "Крыніца" іншага кірунку, але з захаваннем — больш літаратурна і эстэтычна забяспечаным — арыентацыі на новыя павевы ў беларускай літаратуры, на тыя творчыя эксперыменты ў прозе і паэзіі, калі сыходзяцца філасофскі розум і пісьменніцкая фантазія, а часовае ўсяляк імкнецца перастварыцца ў вечнае. Як пазначае галоўны рэдактар "Крыніцы" Уладзімір Някляеў, яны маюць на мэце пазначыць "шлях у кантэкст еўрапейскай літаратуры, адначасова з увядзеннем яе здабыткаў у свой нацыянальны кантэкст". Дзеля гэтага тут і публікацыі літаратурнай спадчыны, і важкія пераклады, і літаратурныя партрэты класікаў і сучаснікаў — у розных ракурсах, "суплёт ідэй", і філасофскія эсэ, і па сутнасці анталогія твораў беларускага замежжа, якую спакваля складае Уладзімір Арлоў...

Новая "Крыніца" адмовілася ад стракатага выяўленчага раду, што вызначаў папярэдніцу "Крыніцу". Строгі, паеўрапейску сучасны дызайн, які пазначаецца густоўнай вёрсткай і вар'іраваннем шрыфтоў; партрэты аўтараў.

Цікавы часопіс... Ён пацвярджае вызначаныя арыенціры і займае асобае месца ў сённяшнім літаратурным працэсе і культуровым жыцці беларусаў. Абвешчаны элітарны прыцэл часам вытрымліваецца, часам — не. Можа, гэта і добра? Ёсць тут свой сэнс. Ёсць свае рацэі і ў тым, што імкненне Уладзіміра Някляева інтэлектуалісцкі завастрыць у творчасці праблемы быційныя, парадаксальна — ці арганічна? — спалучаецца з адчуваннем натуральнай непазбежнасці "асалоды смаку жыцця". Ён пакутуе пытаннямі кшталту: "Хто ў Вечнасці мы?" і з відавочнай ахвотай удзельнічае ў дзействах тыпу Маладзечанскага фестывалю. "Гулязь дык гуляць" — пад такім замышста-хвацкім дэвізам ідзе ў Маладзечне заключны канцэрт, аўтарскі вечар Уладзіміра Някляева, якраз у той дзень, калі я раблю гэты допіс. І дзяўчына ў строях ці то сучасный вакханкі, ці то німфы (вянок на галаве, туніка-карацелька і боты) заўзята прызнаецца ў песні, як яна кахае бабніка, а перад тым гарэзліва даводзіць: "Гары яно гарам, ой-ё-ёй!" Дзяўчына так і не навучылася беларускаму фрыкатыўнаму "г", але ёй можна ўсё дараваць: так яна хораша і мужна скача пад праліўным дажджом. Шчарупка эстрады, праўда, мае паддашак, аднак, падобна, ён мала дапамагае. І тым не менш — на адкрытай пляцоўцы пад дажджом мора парасонаў, а на эстрадзе ледзь не ўсе зоркі беларускай эстрады: яна, чароўная Ліка, ансамбль "Сябры" з Ярмоленкам, Вуячыч, больш і менш вядомыя акцёры. І сам паэт у святочным белым гарнітуры, у святочным настроі. Няўжо і сапраўды — "зарокся быць шчаслівым. Страшна стала"? Тут я стаўлю пытальнік. Здаецца, не, не страшна. "Дык як на вечнай сцэне быць сабой, Не слыць, а жыць..."

Магчыма, заўтра паэт Уладзімір Някляеў наноў будзе задаваць сабе гэтае пытанне. Нават і пэўна. Але прыгожае пісьменства з яго адстароненай думкай, сутнасны пошук неяк жывуць у ім разам з выявамі саммедыя і шоу-бізнесам. Ці перашкаджае адно аднаму? Ці, наадварот, быццё дапаўняецца нейкімі дадатковымі сэнсамі? А можа, абарочваецца больш абвостраным адчуваннем віны, пра якую гаворыць паэт у сваіх "Саракавінах"? Можа, такім чынам ён хоча вырвацца з адзіноты ўласнай душы? І адкідвае на момант; на гадзіну, дзень, месяц — усе светаствaральныя, светаглядныя высновы? Магчыма, пасля канцэрта будзе весці сваю песню сам? Неяк давялося чуць — памятаю спеў Уладзіміра Някляева.

"Мастацтва ёсць анты-лёс"? — згадаю я са знакам пытання знакамітага француза. І пакіну гэтае пытанне самому Уладзіміру Някляеву.

Хаця пытанняў яму хапае. Магу ўявіць, якімі бываюць словы і маўчанне яго дачкі Евы. Ёй — пятнаццаць. А ў свае трынаццаць год яна згадвала: "Человек не умел измерять пространство. Впрочем, и время тоже. Он полагал, что за условными линиями человеческой жизни пространство и время исчезнут. Вот только никогда не хотелось думать о том, что же останется". (Аўтарка мініяцюры, з якой узята цытата, не хацела перастварэння тэксту з мовы арыгінала, то і я не раблю гэтага). Толькі магу сабе ўявіць вочы дачкі паэта, якая "сидела у окна вместе со своей мечтой. Мечта плакала, слёзы тающими снежинками стекали по стеклу... Ее (мечты) розовый бантик грустил и жалобно дрожал, напрашиваясь на ласку".

Прачытаўшы гэта, можна сабе ўявіць, як сярод усіх апладысментаў, вечарын, імпрэзаў, віншаванняў, усіх абавязковых спадарожнікаў юбілеяў людзей, аблашчаных пашанай вядомасці, Уладзіміра Някляева ў яго паўвека будуць абавязкова чакаць пытанні і расплывістыя, знікаючыя значэнні і азначэнні сутнасцяў, і ён будзе адчуваць "бездань паміж кожным з нас і жыццём Сусвету".

І — шукаць быційны сэнс з'яў.

І — ведаць асалоду смаку жыцця.

І — мысліць:

**Калі ты паэт і калі ты званар,**
**Ты лішні, ты вольны.**

**Ала СЯМЁНАВА**

Анкета "ЛіМа"

***Працягваем друкаваць матэрыялы "ЛіМаўскай" анкеты.***
***Рэдакцыя прасіла адказаць на наступныя пытанні:***

***1. Што такое "паэзія чыстае красы" ў кантэксце сучаснай беларускай літаратуры — васілёк, які прыўкрашае ніву, званіца, якая ўзвышаецца над мітуснёй быцця, ці нешта іншае?***

***2. Ці варта сёння творцу думаць пра сваю папулярнасць, і як у цяперашніх варунках дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора?***

***3. Што такое змена пісьменніцкіх пакаленняў? У вас ёсць папярэднікі і наступнікі ў літаратуры?***

# ХАЦЕЛАСЯ Б — ТОЛЬКІ ПРА ВЕЧНАЕ...

1. Прытрымліваюся вызначэння Максіма Багдановіча: краса ёсць спажытак для душы. Без такога спажытку не можа ўспрымацца ніводзін мастацкі твор, у тым ліку літаратурны, і ў гэтым — галоўным — сэнсе краса няменная ў любым часе, для любога народа і ягонай культуры. Аднак разуменне і спажыванне красы заўсёды суб'ектывізаванае як асобным чалавекам, так і канкрэтным грамадствам. Яшчэ не так даўно ў нас цаніліся найперш творы як ілюстрацыі да камуністычнай ідэалогіі, і за харавство выдавалася прыхарошванне рэчаіснасці. Сацыяльны матыў бачыўся літаральна ва ўсім, скажам, у красаванні жыта, якое маляўніча апісваў паэт: верш трактаваўся зайдзэлагізаваным школьным настаўнікам і сацрэалістычным крытыкам як паэтызацыя вясны будучага грамадства ці крыху працэй — як узвышэнне працавітых рук савецкага чалавека, адлюстраванне ягонага радаснага жыцця. Агульналюдскі філасофскі змест і глыбока гуманістычны пафас багдановічаўскага верша "Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы..." некаторыя крытыкі, памятаю, уводзілі ў кантэкст толькі капіталістычнага грамадства, супраць якога, нібыта, пратэставаў аўтар.

З іншага боку — агульналюдскія матывы і так званыя вечныя тэмы "чыстаю красой" самі па сабе не робяцца. Мне смешна слухаць паэта, які піша бяздарныя вершы пра жыццё і смерць і заяўляе пры гэтым, што ён працуе для вечнасці. Мусіць жа, не ўсё напісанае застаецца. Застаецца напісанае добра.

Некалі сам зрабіў такі пасаж: "...а ці думаў ты: што першае ў паэзіі — метафара або шчырасць, праўда і душа?" Пэўна ж, усё разам — першае, хоць многія сёння цэняць мо аж занадта якраз на метафару — ва ўрон пачуццю, якога не заменіш аніякім майстэрствам. Ды тое, што мы сталі значна больш увагі надаваць эстэтыцы верша, паэзіі як аднаму з відаў мастацтва, усцешвае, гэта — з'ява заканамерная, непазбежная. Яна ўзмацняецца кожны раз, як толькі здымаюцца ідэалагічныя і культуралагічныя догмы-пасткі.

Няцяжка бачыць тым не менш, што беларуская паэзія была і застаецца раздвоенай. Не стае творцам душэўнай раўнавагі, стану, неабходнага для медытацый, а кожнаму, не сумняваюся, хацелася б думаць і гаварыць толькі пра вечнае. У нас ледзь што ні паэт, дык адразу дзве плыні: лірыка "чыстай красы" і вершы сацыяльна завостраныя, перадусім патрыятычныя. І гэтак — ці не з сівой даўніны. Як наканаванне, што сфармавала нацыянальную традыцыю, адметнасць нашай літаратуры.

Янка Купала, згадаем, аддаваў натхненне не толькі на вершы, а і на публіцыстычныя артыкулы: пра неабходнасць мець уласнае войска, уласныя грошы і г. д. Заклікаў Багдановіч: "Кінь вечны плач свой аб старонцы..." Ды сам браўся за "Пагоню", за "Песні мужыка", за роспачны "Краю мой родны! Як выкляты Богам..." І гэта было таксама патрэбай душы. Хто насмеліцца давесці, што эстэтычная вартасць названых твораў ніжэйшая, чым вартасць вершаў "Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы..." або "Па-над белым пухам вішняў..." — узораў самай чыстай красы? Сутнасць, відаць, у гэтым — тварыць прыгожа, незалежна ад таго, што ствараеш: верш-арган ці верш-сурму.

Прымаю падказку ў пытанні анкеты: званіца, якая... Аднак нікая не "якая"! Звычайная званіца. Яна ж кліча і ў царкву, і на тушэнне пажару, і на змаганне, і проста хораша, велічна гучыць. Але гэта маё, чыста суб'ектыўнае ўяўленне. Хай будзе блажэнны той, хто можа проста "званіць", узняўшыся над "мітуснёй быцця"; як і той, хто кінуў сёння пісаць наогул.

2. Кожнаму на сваёй званіцы хочацца, каб яго пачулі, адгукнуліся яму. Інакш — "звар'яцеў на званіцы званар" (радок Міколы Пракаповіча). Толькі марныя сёння намаганні, каб слухалі ўсе. Быкава і таго не чуюць, хаця ў нармальнай краіне да яго прыслухоўваўся б сам прэзідэнт. Нават калі трапіш у абкарнаныя школьныя праграмы па беларускай літаратуры, не сумнявайся: рамкамі праграмы абмяжоўшча як вучні, так і настаўнікі. У іх перагрузкі, у іх клопат пра хлеб надзённы ды будучы. Купіць зборнік вершаў у кнігарні дорага, схадзіць па яго ў бібліятэку няма калі або лянота. Дый зборнікаў тых усё менш і менш.

Друкаванае мастацкае слова зараз не ў пашане — найхутчэй яно даходзіць праз тэлеэкранізацыю (проза, драма) і магнітафонны запіс (верш-песня). Але гэта ўжо вуснае слова, якое можа гучаць і непасрэдна перад аўдыторыяй. Дзякаваць Богу, школы, бібліятэкі яшчэ запрашаюць паэтаў, яшчэ ёсць там літаратурныя гурткі, гасцёўні. Імпрэзы не праводзяцца цяпер дзеля "птушачак", іх і варта скарыстоўваць, што, урэшце, робіць наша берасцейская сябрына — не адмаўляемся ад сустрэч з чытачамі (дарыўце, слухачамі), нярэдка самі ініцыіруем такія сустрэчы.

Звярнуць на сябе большую ўвагу можна выходзячы на публіку з гітараю (калі не сам, дык са знаёмым бардам), у галіфэ і хромавых ботах (можна ў трусах і лапцях ці босым) і наладжваючы "бум-бам". Гэтак робяць маладыя. І хай робяць, пакуль навучацца, ці зразумеюць, што ніколі не навучацца, пісаць на ўзроўні Разанава (Някляева, Галубовіча, Рублеўскай і г. д.).

Колькі і якіх ні было б шляхоў да папулярнасці, галоўны — пісаць добра. Не адмаўляючыся ад папулярных друкаваных выданняў, не грэбаваць усё ж выхадам да "жывой" публікі — неабавязкова, вядома ж, у галіфэ, ботах ды іншым падобным аксесуары.

3. Аб'ектыўна змена пісьменніцкіх пакаленняў — гэта новая, больш высокая прыступка. Ці новы крок, няважна ў якім напрамку. Недарэчна параўноўваць Купалу і Разанава па вертыкалі, а па гарызанталі — чаму ж: абодва адкрывальнікі, першапраходцы.

Аб'ектыўна не можа быць шэрасці: кожны творца, як і кожны чалавек увогуле, непаўторнасць, індывідуальнасць, пагэтаму ніколі не будзе сказана ў паэзіі ўсё. Перапевы ж — непазбежны, як і няшчырасць, як і здрабненне паэзіі — гэтай "почвы и судьбы" (Пастэрнак) — да дзіцячай ці п'янкой забавы.

Той, хто туруе лідэру, адкрывальніку, таксама карысны: ствараецца і ўмацоўваецца школа, напрамак. Іншая справа, калі пісаць аднолькава змушаюць, як гэта было ў "камуністычныя" часы. Змена пакаленняў для развіцця літаратуры тады мала што давала. Гэта было тапанне, застой.

Не ведаю, які літаратар скажа, што ў яго не было папярэднікаў. Папярэдніцтва — у падсвядомасці, генах. І папярэднікі ёсць ва ўсіх: калі не канкрэтны пісьменнік, дык продак, прырода, Бог. Бо Слова было ад пачатку ўсяго.

Асабістая творчасць — толькі невялічкая часцінка творчасці ўсіх: як папярэднікаў, так і наступнікаў. Добра, калі б яна аказалася непараўнальна адметнай, незнікальнай, захавала імя. Але гэта ўжо залежыць ад Космасу.

**Алесь КАСКО**

## ФОНД СОРАСА — БІБЛІЯТЭЦЫ

**Нядаўна праграма "Стажыроўкі і паездкі" Беларускага фонду Сораса і "Прагрaма рэгіянальных бібліятэк Фонду Сораса" аказалі фінансавую падтрымку дырэктару Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі Уладзіміру Голубеву і галоўнаму інжынеру яе Дзмітрыю Сівураву для ўдзелу ў Трэцяй міжнароднай канферэнцыі "Крым-96", што пад назвай "Бібліятэкі і асацыяцыі ў зменлівым свеце. Новыя тэхналогіі і новыя формы супрацоўніцтва" праходзіла ў Крыме, у Фаросе. У ёй прынялі ўдзел звыш 700 спецыялістаў з 35 краін.**

**Дарэчы, гэта не першы выпадак падтрымкі Фондам Сораса ініцыятыў гэтай бібліятэкі. Прадстаўлены ў снежні 1994 года грант памерам 11 тысяч амерыканскіх долараў даў магчымасць беларускім навукоўцам-аграрнікам атрымаць і выкарыстоўваць міжнародную інфармацыю з базы дадзеных Сельскагаспадарчага бюро брытанскай Садружнасці на аптычным кампакт-дыску. Летась гэты ж фонд аплаціў удзел дырэктара бібліятэкі У. Голубева ў Другой міжнароднай канферэнцыі "Крым-95".**

## ПРАЦЯГ "ГІСТАРЫЧНАГА СЛОЎНІКА..."

**Першы выпуск "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы", як вядома, з'явіўся яшчэ ў 1982 годзе. Нядаўна ж у выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыў свет 14-ы. Як і папярэднія, ён адрасаваны шырокаму колу чытачоў — мовазнаўцам, гісторыкам, этнографам, усім, каго цікавіць мінулае беларускага народа. У выпуску прадстаўлены словы ў межах літар І—К. Раскрыццё значэння пэўнага слова робіцца рознымі шляхамі... Да яго падбіраецца адпаведны лексічны эквівалент сучаснай беларускай мовы, а малавядомыя цяпер рэаліі і паняцці падаюцца праз апісанні. Выкарыстоўваецца таксама і спасылкі на адпаведныя зыходныя формы.**

## ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ

**Папулярная серыя "Школьная бібліятэка", адрасаваная найперш вучням, папоўнілася чарговай кнігай. Гэтым разам парупілася выдавецтва "Юнацтва", выпусціўшы пад адной вокладкай раман Г. Далідовіча "Гаспадар-камень" і аповесць А. Карпюка "Пушчанская адысея". Абодва творы добра вядомы чытачу. У рамане расказваецца пра жыццё беларусаў напярэдадні першай сусветнай вайны, праўдзіва паказана, як нават у простых людзей паступова нараджаецца пачуццё нацыянальнай годнасці, а лепшыя прадстаўнікі народнай інтэлігенцыі, тыя, хто сам выйшаў з вёскі, задумваюцца аб лепшым упарадкаванні жыцця. "Пушчанская адысея" — вяртанне ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Галоўны герой твора, апынуўшыся з братам у фашысцкім канцлагеры, не здаецца. Цудам уратаваўшыся, ён становіцца ў шэрагі актыўных барацьбітоў з ворагам.**

## "БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА", N 5

**Па традыцыі часопіс удзяляе вялікую ўвагу пытанням, што закранаюць розныя аспекты жыцця грамадства. "Чалавека трэба паважаць за справу" — гутарка В. Ліс з балетмайстрам В. Елізар'евым. Член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі арганізацыйных і ўпраўленчых навук У. Вялічка выступае з артыкулам "Ці патрэбна грамадству ідэалогія?". "У пошуках маральных каштоўнасцяў" — тэма разваг Ю. Васільева.**

**Вострa публіцыстычныя нататкі "Усё наперадзе" прапануе У. Глушакоў. 60-годдзе з дня нараджэння Б. Сачанкі адзначаецца артыкулам Г. Бульбы "Сум па чысціні". "Вільгельм Кубэ — нацыст самай высокай пробы ў ролі правіцеля Беларусі". — вяртанне А. Стука да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Часопіс пачынае друкаваць аповесць І. Шамякіна "Выкармак", галоўным героем якой з'яўляецца звычайны прыстасаванец, што становіцца "дэмакратам".**

*Паэзія*

Васіль САХАРЧУК



# СЛОВЫ, ТОЛЬКІ СЛОВЫ ВЫКАЗВАЮЦЬ МЯНЕ...

## СЛОВЫ

**Чвэрць веку  
пішу і перакладаю словы,  
і калі мяне пытаюцца,  
які стан  
перажывае іх творца  
ў хвіліны натхнення,  
я параўноўваю яго  
са станам верніка  
падчас малітвы.**

**Натхненне,  
як і малітва,  
рассоўвае межы  
ў прасторы і ў часе  
і ставіць мяне  
пасярэдзіне свету  
сам-насам са Словам,  
бы верніка, — з Богам...**

**Чвэрць веку  
пішу і перакладаю словы  
і зноў шчыра радуюся,  
што натрапіў на думку,  
блізкую майму духу.**

**Яна прыляцела  
з далёкіх Балканаў,  
дзе жыве  
паэт Здраўка,  
які ўклаў яе  
ў просценькае трохрадкоўе:  
"Словы, толькі словы складаюць  
маё жыццё,  
але не я іх выказваю —  
яны выказваюць мяне".**

## ПЕРАВАГА

**Няма на свеце  
непрыгожых жанчын,  
а ёсць  
толькі самаўпэўненыя,  
і пагэтаму абыякія,  
мужчыны,  
якія,  
шукаючы існага, сутнаснага  
не заўважаюць таго,  
што ляжыць на паверхні.**

**Ці не таму  
большасць з іх  
любяць павучаць  
адзін другога:  
уважліва выслухай жанчыну  
і зрабі ўсё наадварот,  
не заўважаючы,  
што тым самым  
умацоўваюць  
сваю залежнасць  
ад яе волі,  
бо падсвядома  
падпарадкоўваюцца  
законам матрыярхату.**

**І я,  
дагаджаючы сваёй каханай,  
кажу ёй,  
што жанчына ад прыроды  
мае нязменную перавагу  
ва ўсім мецъ рацыю  
і нават тады,  
калі яе не мае,  
і гэта  
дае ёй права  
ўсё рабіць наадварот.**

## СУМНА...

**"Як сумна,  
калі паміраюць людзі..." —  
думаю я, чытаючы спачуванні.**

**"Як сумна..." —  
падумае нехта,  
калі памру я...**

## РАНІЦА

**Прачнулася сонца  
і белым іскрыстым мячыкам  
павісла над горадам.**

**Серабро яго ных промняў  
ледзь чутна пазвоньвае  
на заспаных шыбах.**

**Падымаю вочы насустрач сонцу  
і нямею ад нечаканасці:  
яно падміргнула мне  
з твайго расчыненага акна  
і рыжым грабеньчыкам  
лянiва расчэсвае  
лён тваіх валасоў.**

## ГАРАДЫ-СУСЕДЗІ

**Яму — пад 1000,  
ёй — за 120...**

**Для чалавечага веку —  
зашмат,  
а ім  
ледзь хапіла для маладосці.**

**Яны так даўно  
жывуць па-суседску,  
мыюцца дажджамі  
і захутваюцца ў снег  
з адных аблокаў,  
грэюцца адным сонцам,  
глядзяць у адно неба,  
пасылаюць адно другому  
лісты і цягнікі  
і дасюль  
ні разу не сустрэліся.**

**Каб наблізіць сустрэчу,  
ім нічога не застаецца,  
як толькі расці насустрач  
і ціха радавацца  
спатканням  
сваіх закаханых.**

## БЯССОННЕ

**"Чаму чалавек задае пытанні,  
а потым, нібы закляты,  
і днём, і ноччу  
упарта  
шукае на іх адказу  
і не заўсёды знаходзіць?" —  
так запытаў я ў ветру,  
што мірна спаў,  
паклаўшы пад голаў  
вершаліну калматага дрэва.  
І ён, разбуджаны маім голасам,  
перавярнуўшыся на другі бок,  
сярдзіта буркнуў:  
"Чалавеча,  
ідзі лепш спаць.  
Пра гэта трэба пытацца  
на досвітку.  
І не ў мяне,  
а ў сонца".**

## СУПЯРЭЧНАСЦЬ

**На нашай грэшнай планеце  
усім істотам  
адведзены строгія ролі.**

**І чалавек, адчуўшы  
уладу сваю над прыродай,  
зрабіў свет вялізным тэатрам.**

**Кажуць, што ён шчаслівы...  
Шчаслівы. Вядома, шчаслівы,  
інакш, ён быў бы суфлёрам.**

**Чаму ж тады кожнай вясною,  
як толькі пачуе зязюлю,  
пра шчасце ў яе пытае?**

*Проза*

НІЗКАЯ МЯСЦІНА пасярод вёскі, зарослая густым кустоўем, змрочная і вільготная. Але не гэта было галоўным. Пра Далінку расказвалі ўсялякія жахі. Хтосьці з вяскоўцаў неяк бачыў там свінню, якая, прысеўшы на азадак, пасміхалася зусім па-чалавечы і капытцам скрэбла сябе за вухам. А некага пераходзіла цяля і, спыніўшыся, гаўкала па-сабачы... Адным словам, Далінка была месцам небяспечным. І адно ўпрыгожвала яе: высозныя дрэвы паабапал дарогі, што перасякала Далінку. Ад іх заўсёды ішоў незразумелы гуд. Але гэта між іншым. Галоўнае тое, што ў Вялікім Пісанні сказана: "Не памрэм, але зменімся".

Ён вельмі добра помніў той дзень, калі, ідучы з вясковае крамы, зазірнуў да Мікіткі Кульгавага. Чутка радасная ў таго была. У мястэчку нявестка разрадзілася ўнукам. "Ну, дык кульнём за майго ўнучка", — наліў чарку Мікітка. І яны кульнулі. А потым была яшчэ адна чарка і, як час паказаў, лішняя. Ужо падыходзячы да сваёй хаты пачуў, як нешта кальнула пад левай лапаткаю, потым запякло. А тут Галенка, жонка яго ная, на парозе з'явілася: "Нацмокаўся, цмок стары... Ідзі лучыны нашчапай. Назаўтра падпалу няма. Чым печ распалю?!" І ён пайшоў шчапаць лучыну. Паклаў на калоду смалісты сук, падняў сякеру... І ўсё! Як падкасіла чалавека. Зваліўся проста тут, ля калодкі. Але гэта быў не канец.

Праз колькі хвілін ён ужо зразумеў, што ў яго ным жыцці пачынаецца нешта новае. Ён, нібыта, ажыў, думаў, разважаў... Бачыў усё тую ж калодку, сякеру ля яе і сябе самога тут жа. Нага неяк дзіўнавата падкурчылася, лоб упёрся ў калодку. Так, гэта было яго нае цела, а што ж тады ён такое цяпер? Хацелася памацаць сябе за руку, але ніякай рукі няма. Вунь яна, адкінутая, з жоўтым пальцам ад тытуню. Агарнула разгубленасць. Пад неіснуючай лыжачкай засмактала нейкая страшная адзінота. Вачэй няма, а ён усё бачыць. Ды і чуе таксама. Во, з якім лямантам бяжыць Галенка. Упала, схілілася над яго ным целам, а ён вось тут, побач. Хацеў нешта сказаць — не атрымліваецца. Мовы няма. Як ні пнуўся, ні слоўка не выціснуў, а вось жа разважае... А галава там. Без галавы думае. Але што цяпер тое згадваць? Пэўна, ужо і Галенка не памятае той калодкі, той нагі яго най падкурчанай. Напэўна, з году ў год ходзіць на Радаўніцу на яго ную магілку. Час ад часу і ў царкву заглядвае, моліцца за супакой яго най душы. Ведала б Галенка, што душа гэтая ўжо мо і які дванаццаты гадок матляецца на галіне, што распасцерлася над Далінкай, і ніякага супакою ёй няма.

Як ён апынуўся на гэтым дрэве, дагэтуль уцяміць не можа. Нейкая сіла падхапіла, панесла і кінула на галіну. Ды і не кінула, бо не было чаго кідаць. Так, нейкі туманок празрысты, пасмачка, акравачак нечага нябачнага. Але гэты акравачак бы прыкіпеў да гэтай галіны. Праўда, не зусім. Ён можа спускацца ўніз, туды, на Далінку... Але толькі на яе. Уверх дарогі няма. Як ні пнуўся — бы сцяна якая. Кідаўся і ўбакі: у адзін, у другі! Таксама глуха. Нешта не пускае. А ўніз можа...

Во-о, зноў курыца Іванішына пад ім на Далінцы сакоча. Гняздо ў яе там, ці што? З гэтай курыцаю дык проста смех. Неяк дастала яна яго сваім сакатаннем. Дапякла. Ён і рынуўся ўніз, на яе... І, о дзіва! Прайшоў, праткнуўся праз пер'е, праз скуру. Вантробы курыныя пабачыў. Фу, паскудства нейкае. І мазгоў ніякіх, так, чарвячок заморана. Аж плюнуць схацелася. Але — як жа ён плюне? А вось курыца плюнула, як толькі ён пра гэта падумаў. Са смакам, па-чалавечы. Гэта яго моцна тады ўразіла. А потым, калі ўжо зноў матляўся на сваёй галіне, раптам павесялела. Дык калі ён у курыцу Іванішыну залез, дык і ў чалавека залезці можа. А тут, на тую думку, і чалавек... Якраз Сцёпка Яўхімаў ішоў. Бы кулём нейкім нябачным зваліўся. І да Сцёпкі, да галавы яго най. Пнуўся, пнуўся і нияк... Моцная мазгаўня ў Сцёпкі. Не прайшоў, не прабіўся. Вярнуўся на

галіну. Падумалася, што трэба на бабе нейкай паспрабаваць. Бабы яны слабейшыя. А вунь і баба! І ніхто іншы, як Галенка ягоная. Рэдка яе тут на Далінцы ён бачыць. Пастарэла Галенка, здала надта. Ногі зусім скрывіліся, але ж неяк шлэпае. Падаўся ўніз, да яе. Торкнуўся, да цела яе пранік. І тое ж самае, што і са Сцёпкам. Не па ім баба! Ды ў іх заўсёды так і было: каса на камень. А-а-а-т!..

Але да людзей ён больш не чапляўся. Да курыцы тым больш. Смурод адзін. Адно і заставалася: глядзець і глядзець на дарогу. І ўдзень, і ўночы. Але позняй парою было нецікава. А вось днём нешта ўдавалася выхапіць, як кажуць, ўзялі, што называецца, без бою? Немцы ж, во, таксама не надта наязджалі. Першы раз з'явіліся, — падаткам абклалі, а за другім разам палілі... Але ж тады сюды не ўваткнуцца было. Наўкола балота, багна. Толькі дурань сунуцца мог. Цяпер усё па-іншаму. Ваду звялі, асушылі. Вунь, якая дарога! Танкавая брыгада прайсці можа. Не праходзіла. І ўсё ж нейкі бізнесмен... Даляры... Хм-м, ціка-ава!

— Мар'я!

О-о, Іваніха зноў разагнулася. Мар'ю Фядутку ўгледзела. Тая па той бок дарогі ў сваім гародчыку калупаецца.

— Ганна, ты? Цябе й не відно з-за

— Ты грошы не ўзяў. Тут во семдзесят тысяч. Маці ў Антопаль едзе. Адразу з фермы...

Або-о! Семдзесят тысяч! Здалося, аж дух яму заняло. Хм-м дух! Ён увесь цяпер дух. Во-о, як сціўся ў камячок. Семдзесят тысяч! Адкуль жа ў іх цяпер такія грошы? Не памыліўся-такі: пры амерыканцах жывуць. Пры паляках у зрэб'і хадзілі, пры Саветах на ровэр усе ўзбіліся, а пры амерыканцах... Ужо і на семдзесят тысяч узлезлі! Не-е, ён пра такія грошы і думаць не мог калісьці пры тым жыцці. Колькі ж гэта ў яго пенсія пад канец была? Дваццаць восем рублёў, здаецца? Не-е, дваццаць восем гэта ў Галенкі... А ён ужо ў

Раіса БАРАВІКОВА

# ДАЛІНКА

АПАВЯДАННЕ

з таго, цяпер для яго ўжо чужога, свету...

Во, шкандыбае хтосьці па дарозе. І не адзін. Той, што ў кепцы зашмальцаванай, ці не Васька Дзірванок. Ага-а, ён, Васька! А маладога ўжо і не ведае. Во-а, як прэ. А Васька наўздагон...

— Чуй, Толік, — даляцела да яго. — Дык ты, што, сапраўды ў Народны фронт падаўся?! Лістоўкі іхнія расклейваеш?

Васька замоўк. Малады не адзываўся. Яны ўжо пераходзілі Далінку. Але ён пачуў апошнія Васькавы словы:

— Смаркач ты яшчэ... Да каго прыткнуўся?

Штосьці пахаладнела ў ім. Думкі закруціліся, замітусіліся. Ба-а... Нейкі Народны фронт там у іх! Але ён жа не дурань! Фронт ёсць фронт! Ён жа сам, калі немец сюды папёр, таксама... Праўда, пад канец, калі ўжо наступленне ішло, у Першым Беларускім быў. Дык мо вайна ў іх якая там грамадзянская? Але — не! На вайну непадобна. Вунь Іваніха плёнку з парніка здымае. Дурная баба, што ты робіш? Колікі саб'еш! Ну, нарэшце, з другога боку зайшла. Значыцца, фронт нейкі!.. Цяжкая справа. Ён ведае. Праўда, сам толькі да Варшавы дацёгся, а нібы праз пекла прайшоў. Там і параніла, пад Варшавай. За гэта і ордэн далі. Але раненне было лёгкае. А вось капітану Міхайлаву не пашанцавала, батальённаму іхняму. Жывот разнесла. Ляжаў пад сасонкай... Да яго павярнуўся: "Дзямчук, не мітусіся... Мы яшчэ недзе там... сустрэнемся!" Э-э, памыліўся капітан. Мо і ён вось гэтак дзесьці там, пад Варшавай, на сасонцы той матляецца. І яму цяжэй. Я тут, між сваіх... А ён нават мовы польскай не ведае. Хаця... Столькі гадоў прайшло! Відаць, вывучыў. Разумее палякаў. І не так горка. Во і я гляджу і гляджу ўніз... От, на ровэры хтосьці едзе. Спыніўся ля Іванішынай хаты.

— Цётка Ганна, Вадзік до-ома?

Ай, Іваніха... І што ж там за гарод такі ў яе, што ўсё корпаецца, корпаецца. Але вось разагнулася.

— На торф з бацькам падаўся.

— Дык скажыце, калі вернецца, што Трында-бізнесмен прыехаў. Тавару гару ўсялякага навёз. Без накідкі. Але бярэ далярамі.

А-а?! Даляры... Бізнесмен. Што ж та за слова такое? Э-э, вось і выкруцілася... То ж недзе напрыканцы сямідзесятых бізнесмены амерыканскія ў суседні калгас прыязджалі дзяліцца вопытам. А тут тавар развозіць бізнесмен нейкі за даляры. І ўсё роўна, бы свой чалавек, да якога прывыклі ўжо. Дык мо амерыканцы прыйшлі? Мо, сапраўды, вайна якая? Але чакай, чакай... Колькі ўжо тут матляюся, гляджу ўсё на дарогу гэтую, ды не прыкмячаў, каб прабухала пяхота ці артылерыя. Дык мо голымі рукамі

сланечнікаў.

— Я... Мо ў цябе праграма ёсць? Калі гэта "Санта-Барбару" трэба глядзець?!

Угу-у... Санта-Барбару нейкую глядзяць. Што ж то такое?! Імя жаночае, ці што? Далібог, амерыканцы... І нешта падкінулі ім, каб глядзелі. Мо дзіця якое? Ды яшчэ і па праграме... Ну, хаця б на хвілінку ў тое жыццё ўкруціцца, разабрацца, што да чаго.

Нейкая млявасць. Усё роўна, бы задрамаў. Дудкі! Цяпер сну ў яго ніякага. І хоча забыцца, упасці ў

васьмідзесятым трыццаць два рублі атрымліваў. І як жылі яны з Галенкаю! Як жылі! На пенсіі на дастатак ускараскаліся. Разам ажно шэсцьдзесят рублёў атрымлівалася. А тут семдзесят тысяч!..

Чые ж гэта дзеці будуць? Ён зірнуў на Далінку. Пецька ўжо быў дзесьці па-за ягоным зрокам, а дзяўчынку бачыў. Ішла назад, паблісквaючы аголенымі нагамі. Фу-у, бессаромніца! Штосьці пра ферму казала. Мабыць, Лявонкава. Во і зразумела. Лявончыха калісьці сама добраю круткай была, такою ж і дачку выгадавала. Э-э, ядры

Фотакалаж Ул. Скрыганава.

нейкую несвядомасць, і не можа. Прыкідвае, разважае, назіркам сочыць за дарогай. Здаецца, кожную пясчынку на ёй вывучыў. Во, падлетак нечый ідзе. Ён ужо і не ведае гэтых падлеткаў. Без яго нараджаліся. Натапыраны нейкі, злосны.

— Пецька-а! Пецька-а!

Бяжыць нехта ўслед. Дзяўчанё нейкае. Цьфу, ногі непрыкрытыя, а ўжо, лічы, дзеўка. Чыя ж гэта можа быць? Не, не ведае. Хутка, мабыць, як ягоная Верка, лахі пад пахі, і ў мястэчка! Верка... Штосьці ж ні разочку яе тут не ўгледзеў на Далінцы. Мо ў таксоўцы якой пралятала? Ці ў аўтобусе? Ды нешта ж і аўтобуса рэйсавага даўно ён не бачыў. Не едзе Верка! Во, не стала яго, мо і рухнула ўся сямейка. Разваліліся. Мо, з Віцькам, чаго пасварыліся, не падзялілі? А дзяліць было што! Дабра нямала ён пакінуў. Хоць, бывала, і чаркі ад сябе не адкідваў. З-за той, другой, у Мікіткі Кульгавага, можна сказаць, і памёр. Яму ўсё не давала спакою тая чарка. Каб не яна, мо і не матляўся б тут, на гэтай галіне. Ва ўсялякім выпадку, гадочкаў з пяць яшчэ там працягнуў бы...

— Пецька! — дзяўчына аддыхвалася.

твой корань! Крутка круткаю, а семдзесят тысяч... Што ж яна там, у Антопалі, будзе купляць такое?! За такія грошы Антопаль увесь скупіць можна. От як разжыліся! Яму хацелася плакаць ад нейкай сваёй безвыходнасці. Ды за такія грошы!.. Жыгуль можа, як ахнуць, адхапіць! Колькі ж гэта ён каштаваў? Шэсць-сем тысяч... А тут семдзесят! Семдзесят тысяч! О, які дастатак амерыканцы далі. Ёй жа Бог, Лявончыха ўвесь Антопаль скупіць. Ну, а Віцька мой? Што ж там у маіх?

Э-э, неяк бачыў тут яго, на Далінцы. Пакутаваў тады надта. Віцька налізаўся недзе, як цуцык. Ног не чуў сваіх. Ішоў, бы кашалі плёў. А пасярод Далінкі і зваліўся. Уткнуўся галавою ў крапіўнік. Ды якая там галава ў п'янтоса! Квач нейкі. Во-о, дык тым квачом дзёўб зямлю. Як жа яму хацелася тады курыцу Іванішыну ўгледзець. Ён бы такія штукі паказаў Віцьку, што таго назаўжды ад пітва адвярнула б! Шкада, не было тады курыцы на Далінцы. Толькі праз які час Каця з'явілася, гэта значыць, нявестка ягоная, жонка Віцькава. З калёскамі нейкімі. Усцягнула Віцьку на драбінкі і паперла тыя калёскі

паперад сябе. Каб на тым свеце быў, дальбог лейцы ў рукі ўзяў бы... Сам во, з-за той, другой чаркі ў Мікіткі Кульгавага... Га-а, а мо і не п'е Віцька. З чаго гэта ён так вырашыў? Ці ж бы пёрла Каця з тымі калёскамі. На п'янюгу рукой махнула б! Ляжыш і ляжы сабе да сканання. Цікава, семдзесят тысяч! Мо і Віцька таксама такімі ж грашамі варочае?

Яму стала чамусьці непамерна шкада сябе. Божа, за што ён скараў яго! Век кароткі адмераў. Галенка ж ягоная шчэ жыве. А дзесьці ж пад восемдзесят. Ёй заўсёды больш шэнціла. Бывала, як парсючкоў купіць, дык і вяліся... Рука лёгкая ў Галенкі. У яго цяжэйшая была, не ў руку ўсё ішло. Але хату сам ставіў. Не-е, гаспадар ён быў неблагі. Бог за іншае нешта скараў! Хм-м, семдзесят тысяч!

О-о, як шпарыць!.. Хто ж то такая? Манька Васіля Каморніка. Яна ўсё хустку набакер завязвала.

— Манька!

Ага-а... Іваніха, цяпер ужо не з гароду, з хаты выйшла.

— Ма-анечка, — даганяе Васіліху. — Ты мо ў канторы была?

— Якраз адтуль іду, цётка! — прыпынілася Маня. — І вы не марудзьце... Грошы прывезлі. Толькі мала. Наўрад ці касірка на ўсіх расцягне. Мне во толькі сто дваццаць тысяч дала. Астатнія невядома калі.

Ён ажно затрапятаў увесь. Ды ці не здурнела Манька? Бач, ёй ўжо сто дваццаць тысяч мала. Куды ж яны там дзяюць грошы гэтыя? Па выгляду, дык як і ў шаўках не ходзяць. Боты нейкія на Маньцы. Гумовікі. А сонца ж во як жарыць... Прыслухаўся.

— Вы б, цётка Ганна, транты якія глянулі. Мо што ад вашых хлопцаў засталося? — казала Васіліха. — Мой малодшанькі школу во закончыў... Дарэшты штанцы дадраў! А мо ў пэтэвэ якое падасца, дык жа зад прыкрыць трэба. У мястэчку, як глянула, па сто тысяч штаны каштуюць!

— Я пагляджу, Маня, — запэўніла Іваніха і параіла. — А ты б мо ў Антопалі прадала што з харчу.

— Што? Што прадасі, цётачка?! Я раней і прадавала. Яшчэ за тымі часамі, ранейшымі. Бывала, дзесятак яечак прадам, во вам і рубель сорак. Два кілі хеку марожанага можна было купіць. А цяперака... Ну, прадам я дзесятак за дзесяць тысяч... А кіле таго самага хеку ўсе трыццаць каштуе! Дык ці ёсць сэнс, цётачка? Жыццё такое, што і не прадаць, і не купіць!.. Да згубы нейкай усе ідзём!..

На яго бы праясненне якое найшло пры гэтых Маньчыных словах. Здалося, нешта кальнула, запякло, як тады пад лапаткаю, пасля той, другой чаркі ў Мікіткі Кульгавага. Унізе, на Далінцы, сакатала Іванішына курыца. І, доўга не думаючы, ён рынуўся ўніз, на яе... Курыца страпянулася. І, накульгваючы, пабегла да дарогі, да Іваніхі, да Манькі. Спынілася. Трапятнула крылом. І з нейкай незямною гарычу, з вялікім адчаем мацюкнулася!..

Бабы атарапелі і тут жа заенчылі. Кінуліся прэч, як мага далей ад гэтай курыцы, ад Далінкі...

Ружовы паўкруг лянотнага ранішняга сонца павольна выкочваўся з-за далягляду. А ля вясковага калодзежа ўжо бразгалі цэпам. Старая Мікіціха выцягвала вядро. Азірнулася. Да калодзежа падыходзіла яшчэ заспаная Лявончыха.

— Ці чула ты, Гэлька... — Мікіціха паставіла вядро на зямлю. — Гэта ж учора стаялі бабы на Далінцы... Ну, ведаеш, Манька Васіля Каморніка і Ганна Іваніха. Гаманілі пра нешта. А тут... Адкуль ні вазьміся — Іванішына курыца... Ды як мацюкнецца!.. О-о, страху было!

— Ай, цётка... — адмахнулася Гэлька. — Галавы сваёй не тлуміце! Жыццё во-о якое... Усе мацюкаюцца. Думаеце, курыцы салодка цяпер? Не корміць яе Іваніха. Во і мацюкнулася...

І Гэлька загрымела калодзежным цэпам.

А сонца лянотна ўздымалася і ўздымалася, рыхтуючыся лінуць свае промні і на Мікіціху, і на Гэльку, і на вечны, трывожны спакой Далінкі.

## ЛЯЧЫЦЬ БУДЗЕ І МАСТАЦТВА



"Мастацтва, Экалогія і Я" альбо "МЭЯ," як яно называецца скарочана, — такое аб'яднанне з'явілася нядаўна ў Гомелі. Асновай для яго стварэння на Беларусі, экалогія якой асабліва пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, паслужыў праект "Мастацтва ў бальніцы", прадстаўлены ў ЮНЕСКА і які прадугледжвае вылечванне хворых пры дапамозе твораў мастацтва.



*На здымках: першыя члены творчага аб'яднання "МЭЯ" мастакі Святлана Курашова, Уладзімір Андрэянаў і Ларыса Зуева; работы членаў аб'яднання — габелен "Экалогія" і кераміка "Браслаўскія азёры".*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## 50 ГАДОЎ НА ДОЎГІМ БРОДЗЕ

Урачыстая сустрэча ўдзельнікаў народнага тэатра на Доўгім бродзе Палаца культуры МТЗ адбылася на пачатку чэрвеня. Больш за 50 акцёраў, якія ў розныя гады ігралі на сцэне трактаразаводцаў, віталі цяперашні склад старэйшай аматарскай трупы сталіцы Беларусі і яго мастацкага кіраўніка Мікалая Шутава, які 19 год з'яўляецца галоўным рэжысёрам тэатра. Вечарына 2 чэрвеня была прысвечана пяцідзесяцігоддзю вядомага калектыву краіны, чыю афішу ўвогуле склалі 84 назвы!

З нагоды 50-годдзя аматарскі калектыў шчыра віталі дзяржаўныя, прафсаюзныя і грамадскія арганізацыі рэспублікі і Мінска.

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## ЧУЖОЕ ЛЮСТЭРКА

Галерэя "Шостая лінія" паступова становіцца элітарным клубам беларускага авангарда. Нават калі ў галерэі экспануюцца творы мастакоў-традыцыяналістаў, у гэтай зале яны ўспрымаюцца зусім інакш, чым у Палацы мастацтва альбо ў Нацыянальным мастацкім музеі. Зараз у "Шостай лініі" прадстаўлена творчасць маладога мастака Андрэя Вераб'ёва. Ён дыпломнік Беларускай акадэміі мастацтваў. Днямі ён абараніў дыплом, і, мабыць, гэта выстава прымусіць Дзяржаўную камісію іншымі вачыма ўбачыць тое, што Андрэй прадставіць на яе суд. Тое, што бачаць гледачы ў зале "Шостай лініі", мае назоў "Апісанне жыцця Андрэя Вераб'ёва, незвычайнага і аднаго са шматлікіх, з нараджэння да гэтага дня" і падзагаловак "Мастацкая акцыя". Мастак дэманструе не скульптуру (Андрэй — скульптар) ці карціну, а сябе самога. Канструкцыя, што ў плане нагадвае літару "П", апавіта папяровай стужкай, на якой тэксты, рукапісныя і друкаваныя; фотаздымкі — чорна-белыя і каляровыя; паштовыя канверты і лісты, сякія-такія дакументы. Усё ў храналагічнай паслядоўнасці, "з нараджэння да гэтага дня". Гэта жыццё чалавека па імені Андрэй Вераб'ёў.

Адразу скажу, што падобныя акцыі для нас — упершыню, а на Захадзе ўжо маюць традыцыю. Але гэта ні ў якай ступені не зніжае каштоўнасці самой ідэі і цікаўнасць да яе рэалізацыі. Апісваць гэтую выставу, даваць ёй нейкую ацэнку — тое ж самае, што пісаць рэцэнзію на чыёсьці жыццё. Інакш кажучы, замахвацца на прэрагатыву Госпада Бога. Гэта было б занадта...

Адно скажу, выставу глядзеў з цікавасцю — думаў пра сваё, прыгадваў, якім быў сам у пэўныя перыяды свайго жыцця. Нібыта бачыў сябе ў чужым люстэрку...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Фестывалі

***Уражанні відавочцы, пераплаўленыя ў рэпартаж з месца падзеі, — што можа быць лепш! І журналісты рушылі ў Маладзечна — на IV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. А вось ваш карэспандэнт застаўся ў Мінску. Каб адчуць сябе на месцы той агромністай грамады, якая мо нават з асаблівым шыкам спажывала фестывальныя ўражанні: ля тэлеэкрана, буйным планам, з хатнім камфортам. (Ад гэтага камфорту, дарэчы, нарадзілася ўстойлівае спачуванне-захапленне тымі, каму давялося непагоднымі халоднымі вечарамі трымаць марку Артыста і ствараць свята ў няўтульнай "зале" пад адкрытым, часам з дожджычкам, небам).***

# "МЫ НЕ ЗГУБІМСЯ Ў СУСВЕЦЕ..."

Цудоўна, што свята, паспрабаваўшы летась атабарыцца ў сталіцы, вырвалася з чатырох сцен, памкнула да сваіх вытокаў, вярнулася ў Маладзечна. Цудоўна, што апраўдаліся надзеі на яго падтрымку і да творчага ды арганізатарскага энтузіязму маэстра М. Фінберга з большай ці меншай шчодрасцю далучылі свае намаганні Адміністрацыя прэзідэнта, Міністэрства культуры, маладзечанскія ўлады, спонсары, рэдакцыі газет "Звязда" і "Рэспубліка". І хаця гэтае свята не атрымала "прапагандысцкую раскрутку" на самым вышэйшым узроўні, не мела сродкаў для адпаведнага заахвочвання сваіх удзельнікаў і тым больш — для запрашэння і прыёму гасцей, былі ў самыя ўрачыстыя моманты на сцэне побач з артыстамі спікер беларускага парламента С. Шарэцкі, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Г. Карпенка, міністр культуры А. Сасноўскі, яго першы намеснік У. Рылатка, мэр Маладзечна С. Татарыновіч, старшыня Саюза пісьменнікаў В. Зуёнак...



*Паэт Уладзімір НЯКЛЯЕЎ і намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь КАРПЕНКА.*

Цудоўна, што фестываль мае сваю музычную эмблему — песню "Маладэчна" незабыўнага І. Паліводы з такімі аптымістычнымі радкамі Л. Пранчака: "Покуль матчынае слова будзе ў сэрцах жыць... Да вытокаў будзе вечна клікаць зблізку і здаля Маладэчна... Мы не згубімся ў Сусвеце..." Можа, і не згубімся? Наконт Сусвету высновы рабіць не бяруся, а вось тое, што ў памяці відавочцаў і тэлегледачоў не згубяцца-застануцца лепшыя хвіліны фестывалю, — сцвярджаю як само сабою зразумелую рэч.Гэтыя лепшыя хвіліны ствараліся і тэлеканцэртам з песень І. Лучанка на вершы нашых класікаў ды знаных сучасных паэтаў.

І дынамічнай праграмай "Беларусь не пакіне спяваць" з удзелам лаўрэатаў трох маладзечанскіх фестываляў, салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, дзе гучалі песні І. Лучанка, У. Будніка, І. Паліводы, Л. Захлеўнага, В. Іванова, Э. Ханка, Э. Зарыцкага, Д. Даўгалёва, У. Алоўнікава, З. Яўтуховіча, В. Сярых на вершы Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, В. Зуёнка, У. Някляева, А. Бадака, Л. Пранчака, Р. Барадуліна, У. Мазго, Л. Дранько-Майсюка...

І элітарным, вытанчаным мастацтвам выдатных музыкантаў інструментальнага ансамбля "Яблычная гарбата" І. Сацэвіча.

І такімі нязмушанымі ды маляўнічымі таварыскімі стасункамі з публікай гурта "Палац" ды рок-"Крамы".

І сольным канцэртам Я. Навуменкі, шчырага ў сваіх спевах, у сваёй творчасці, у сваім дыялогу са слухачамі.

І аўтарскай праграмай кампазітара Э. Зарыцкага (якога прадставіў крыху старэйшы за яго калега Э. Ханок), дзе было без малога тры дзесяткі песень — з папулярнымі "Начнымі кастрамі" на вершы С. Грахоўскага, "Белымі крыламі" на вершы Г. Бураўкіна, "Палыновай ростанню" і "Зорачкай" на вершы Н. Гілевіча ды шлягерам "Не хадзі, казача" (словы народныя).

І вялікім заключным шоу з "Песнярамі", "Сябрамі", "Верасамі", "Ражаством", Лікай, прысвечаным 50-годдзю паэта У. Някляева, працы яго ў песенным жанры і выхаду новай кнігі...

Карацей — хто быў, той бачыў і чуў. Хто не быў, той мог паглядзець на фестывальную маладзечанскую сцэну праз "павелічальнае шкло" тэлевізійнага экрана, услухаўшыся ўважліва ў тое, што гучала падчас паказаў.

На жаль, на жаль — гук часцяком быў проста скажоны. На жаль, апроч чыста тэхнічнага браку, не абышлося без хібаў у



*На сцэне — Ліка!*

выкананні вакалістаў: мо нагадаў пра сябе брак школы ў маладых салістаў, мо паўплывалі экстрэмальныя ўмовы — халоднае вільготнае паветра здатнае расстроіць самы моцны "галасавы інструмент", а салісты канцэртнага аркестра, як гэта практыкуецца ў М. Фінберга, спявалі па-сапраўднаму, ужывую. (Што было годным прафесійным і маральным дакорам некаторым нашым "зоркам", улагоджаным за ганарар павыстаўляцца пад фанаграму ў кампаніі не надта дбайна падабраных статыстаў — ну хіба не смешна выглядае музыкант, які прыстаўляе да рота трубу падчас пройгрыша сінтэзатара!). Праўда, салісты Акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча і на непагодлівым пленэры здолелі трымаць добрую вакальную форму.

На жаль, у эмацыянальным пройгрышы апынуўся самы першы тэлевізійны вечар — фестывальная уверцюра, годны па мастацкіх якасцях канцэрт з песень І. Лучанка: праведзенаму ў студыі, яму так не хапала падтрымкі шырокай аўдыторыі, проста — воплескаў залы, зваротнай сувязі са слухачом.

Дарэчы, у Маладзечне дыялог са слухачом вялі не толькі музыканты, спевакі, а і паэты на сваіх літаратурных сустрэчах. У поле зроку тэлекамеры яны не трапілі, а магчымасць выступіць на галоўнай фестывальнай сцэне мелі толькі юбіляр — У. Някляеў ды кіраўнік творчага саюза — В. Зуёнак, які вершаў не чытаў. Малавата...

І калі ўжо гаворка зайшла пра паэтычнае слова, дык нельга не ўспомніць відавочны парадокс. На аўтарскім вечары Э. Зарыцкага папулярныя "рускаслоўныя" песні мінулых гадоў упершыню загучалі як і ўсе іншыя: па-беларуску. Воляю кіраўніка аркестра, для яго салістаў, дзеля ідэі маладзечанскага свята, было зроблена некалькі такіх перакладаў. А на вечары паэта У. Някляева іншыя выканаўцы адну за адной прэзентавалі песні на рускія тэксты, і не толькі даўнія, знаёмыя, а і зусім свежыя "з'явы неа-білінгвізму". Мабыць, кампенсуючы адсутнасць на фестывалі прыезджых "зорак".

Барані Божа сцвярджаць, што нашы творчыя суайчыннікі, якія ў асяроддзі Нацыянальнага свята песні і паэзіі гаварылі не па-беларуску, выглядалі правінцыйнай меншасцю. Я так не кажу. Я проста думаю: чаму добра выхаваны чалавек, тым больш — прафесійны артыст, у зносінах з іншаземцамі стараецца ўжыць колькі слоў на іхняй мове? Ад пачуцця ўласнай годнасці або ад пачуцця павагі да іншых? І чаго бракуе нашым "няздатным" да беларускага слова тубыльцам: неразумення ідэі фестывалю? Уласнай годнасці? Павагі да іншых? Культуры?

Зрэшты, мабыць, трансляцыйныя, тэхнічныя перашкоды адбіваліся на маім настроі, заміналі атрымаць уражанні, цалкам адэкватныя высакароднай ідэі свята: авансам перапрашаю, ды ўсё ж — ёсць,



*"Зала" не пуставала і днём.*



*Народны артыст Беларусі Міхал ФІНБЕРГ.*



*З маладзечанцамі сустрэўся народны паэт Ніл ГІЛЕВІЧ.*



*"Гэй! Кінь гараваць!" — народны артыст Беларусі лідэр студыі "Сябры" Анатоль ЯРМОЛЕНКА.*

ёсць добрыя ўспаміны пра тыя дні, калі пазыўныя "Маладзечна-96" клікалі да тэлевізара, вымушаючы адкладваць нават размовы па тэлефоне. Ёсць і надзея, што наступным разам прымножацца яго светлыя хвіліны, створаныя музыкантамі аркестра, яго таленавітымі аранжыроўшчыкамі У. Ткачэнкам ды А. Шпянёвым, салістамі І. Афанасьевай, Л. Дайнекам, М. Скорыкавым, А. Бляхарчуком, Л. Грыбалёвай, Т. Воранавай, Н. Тамелай, Н. Кудрыной, Л. Вайтовічам, Т. Майсурадзе ды многімі іншымі, паяднанымі маэстраўскім жэстам М. Фінберга. Паяднанымі адданасцю сваёй песні і слову, без якіх мы — ніхто ў Сусвеце, без якіх мы згубімся-зніклем сярод народаў зямлі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. КАЛЯДЫ*

*Віншуем!*

# ДВАЦЦАТЫ АДРЭЗАК ЧАСУ

***Спаўняецца 60 год мастаку тэатра, мастаку-жывапісцу Уладзіміру Цітавічу ГАРДЗЕЕНКУ. Былы галоўны мастак Тэатра юнага гледача, выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў, ён мае за плячыма афармленне больш за дваццаць спектакляў. Не менш значна выказаўся ён і як станкавіст, асабліва апошнім часам, ствараючы сваю новую серыю, прысвечаную Чарнобылю. Серыя яшчэ рэалізавана не поўнасцю, а гэта значыць, што творчае жыццё Уладзіміра Цітавіча ў самым росквіце.***

Вам ніколі не даводзілася перажываць пачуццё надзвычайнай адказнасці, калі раптам мастак давярае вам першаму таямніцу сваёй новай работы? Калі месяцы, а то і болей ён жыў, зачыніўшыся ад сяброў і знаёмцаў (што тут гаварыць пра журналістаў), літаральна не дапускаючы іх у святая святых — у майстэрню, дзе стваралася новая серыя, дзе выношвалася новая ідэя, дзе бурліла праца. І ты, нарэшце далучаны, адчуваеш разам з майстрам вялікае хваляванне і ў той жа час неверагоднае супакаенне, радасць здзяйснення даўніх мар творцы.

Я сядзела ва ўтульнай майстэрні мастака Уладзіміра Гардзеенкі і, ужо пагартаўшы каталог выставы і кнігу "Прайсці праз зону" з яго ілюстрацыямі, адчувала сябе нібы падрыхтаванай да яго новых работ, і ўсё адно анямела ад таго, што пабачыла перад сабою. Сваю новую серыю Уладзімір Цітавіч прысвяціў Чарнобылю і зрабіў гэта не таму, што тэма сталася цяпер папулярнай. Мастак нарадзіўся ў вёсцы Клівы Хойніцкага раёна. Ён дасюль з непрыхаванай дзіцячай радасцю згадвае родную хату, прыбудоўкі, што рабіў разам з братам, такую прыгожую асабліва ў дзіцячых успамінах Прыпяць і з мядовым пахам вечаровыя лугі. А цяпер, за апошнія дзесяць год, колькі разоў праязджаючы каля сваёй хаты ў "зоне", так ён і не адважыўся зазірнуць да яе, аберагаючы сенцы сваіх замілаваных успамінаў.

А бывае ў чарнобыльскай зоне мастак часта. Атрымаў нават дазвол і спецыяльны пропуск ад мясцовага выканкама, транспарт, праважатага, ахову. І за тое Уладзімір Цітавіч вельмі ўдзячны сваім землякам. Аб'ездзіў мастак, і неаднойчы, тыя некалькі дзесяткаў вёсак, што за калючым дротам, і тыя, што вакол яго і дажываюць апошнія дні ў чаканні адсялення. Пісаў гэтыя мясціны і ўзімку, і ўлетку, у восеньскім колеравым разладзе, замалёўваў, занатоўваў, фатаграфаваў. Многія вёскі засталіся ўжо толькі на тых фотаздымках — адны разбураны, другія згарэлі, а іншыя былі і цалкам закапаны, сцерты з твару зямлі. Узбуйнела яркімі фарбамі і перабольшанымі формамі прырода. А пад весну, згадвае Уладзімір Гардзеенка, паўсюль астраўкамі стаяць засохлыя палескія кветкі — такія мілыя сэрцу сярод буйнеючай летняй прыгажосці і такія сімвалічна мёртвыя ў поўным бязлюддзі. І толькі буслы штогод зноўку прылятаюць на старыя мясціны. І незразумела, як іх супаставіць, бусла — цар-птушку Беларусі — і "зону", дзе радыяцыю можна "разграбаць" рукамі, дзе ўвесь час хочацца спаць, а перад вачыма нібыта стаіць смог, больш вобразны, чым сапраўдны, але такі рэальны для ўзбуджанага ўспрымання творцы.

І ўсё гэта, сказанае, перажытае, набалелае, успрынята было мастаком не агульным планам з далёкага фільма пра неверагодную трагедыю, а як сваё, кроўнае, дэталёвае і дробнае, праз тыя нібыта невялікія моманты, якія адны і ствараюць сапраўднае адчуванне трагедыі.

Памятаю, як здзівіла мяне ў нейкім фільме, назву якога я нават і не прыгадаю, як у выселенай вёсцы ў вакно хаты да дзвюх прышлых зазірнуў конь, пацягнуўшыся да чалавечай ласкі. Як смачна ў цішыні хрумкаў ён салёным агурком, узяўшы яго даверліва з жаночай рукі. І гэты вобраз сказаў больш за ўсе мажлівыя словы. Так і ў карцінах Уладзіміра Гардзеенкі кранае душу на першы погляд дробязны вобраз, дэталька — буслінае гняздо, шлагбаум, бур'ян засохлых кветак, мёртвае месячнае святло — і ажывае ўражанне непапраўнасці бяды, незваротнасці часу. Кожная вёска, кожная хата на карцінах мастака — рэальна існуе ці некалі рэальна існавала ў Хойніцкім раёне. Гэтыя вобразы настолькі пазнавальныя, што, прыйшоўшы на выставу мастака ў Хойніках, гледачы называлі мясціны, бывала, што гаварылі нават, чые дакладна гэта дамы: хата дзеда Івана ў Дроньках, вясковы клуб у Кажушках, вышка ў Будзе... Мастак задумаў прысвяціць серыю дваццаці пяці "мёртвым" вёскам, спеўшы ім па-свойму дакументальна дакладны і ў той жа час мастацка абагулены рэквіем. Уладзімір Гардзеенка застаецца тут да канца верны сабе, сваёй творчай манеры, сваёй абстрагіраванасці ад залішняй этнаграфічнасці ці графічнасці. То дэталлю, то колерам, то настроем дадае ён работам трывожнай экспрэсіі, узрушанасці, абагульнення, падсумавання вынікаў бяды. А пэўная незавершанасць, недагаворанасць прымушае яшчэ пільней углядацца ў кожную наступную карціну, вышукваючы ў колеравых спляценнях, у дэталёвай прапрацоўцы нейкі вынік, апошнюю кропку, дзеля якой, здаецца, павінна была быць напісана карціна. Але гэтага няма — і ствараецца пачуццё безвыходнасці і горычы, нават стомленасці амаль фізічнай ад нахлынуўшых на цябе эмоцый.

Над кожнай, самай невялікай карцінай мастак працуе доўга, марудна, выношваючы ідэю і дакладна яе распрацоўваючы. Адна з найбольш удалых і выразных работ серыі "Чырвоныя дрэвы". Пахінутыя ветрам магутныя ствалы на фоне безжыццёвай суцэльнай пустыні — знішчанага, закапанага лесу. Над гэтай карцінай мастак працуе ўжо некалькі год, стварыў розныя варыянты. Але галоўнае, што дар мастакоўскага інтуітыўнага прадбачання зрабіў гэтую работу за некалькі год да сённяшняга дня актуальнай. Ствалы дрэў сапраўды чырванеюць... ад радыяцыі. А карціна "Від на Радзін": з паўразбуранай веранды бачна ўся раскінутая ўначы вёсачка, чартапалох каля ганка, забытыя рэчы і разбітае люстэрка, ад якога вясёлкавымі "зайчыкамі" разбягаюцца колеравыя водсветы. "Зона мае сваю музыку, — згадвае мастак "падарожжы" ў Хойніцкі раён, — у вёсцы Бабчын ёсць дзіцячы садок з выбітымі вокнамі і дзвярамі. І вакол то выюць правады, то вецер б'е бубнам у вакно. Гэта такая жудасная музыка..." Пасля той паездкі Уладзімір Цітавіч напісаў карціну, якую так і назваў "Музыка мёртвых струн", дзе праз колеравую мешаніну ледзь угадваецца гітара, а на нотах па ўсёй карціне раскладзены рэальныя рэчы. "Вёска Буда", што пахінутымі хатамі і вышкай раскінулася за забаронччым шлагбаумам, які і сам вывaрочваецца як жывая істота. І толькі перад ім, у другой ужо рэальнасці, засталася казка сонечнага дня з кветкамі і матылькамі. А "Зарава над Прыпяццю", дзе ў счырванелых жахлівых спалохах, што асвяцілі высокую сасну над берагам, сыходзяць уверх свечкі, мільгаюць цені дзетак і жанчын. Спеў загінуўшым, але які прыгожы...



Уладзімір Гардзеенка не збіраецца абмяжоўваць серыю толькі такімі кампазіцыямі. Ён мяркуе ўводзіць у яе партрэты палешукоў, нацюрморты, якіх ён, дарэчы, слынны майстар. Букеты розных кветак, такіх замілавана светлых, мілагучных па колеры створаны з засохлых раслін. Можа, яны і ёсць сапраўдны ключык для разумення ўсёй серыі і сутнасці майстэрства мастака?

Можна толькі павіншаваць творцу, што ён падышоў да свайго шасцідзесяцігадовага юбілею з вынікам манументальнай работы, якая будзе дэманстравацца ўзімку ў Нацыянальнай мастацкай галерэі. Дасюль яе паспелі пабачыць толькі землякі мастака, праявіўшы да выставы незвычайны інтарэс. Колькі работ Уладзімір Цітавіч уключыў у экспазіцыю выставы ў Іспаніі. Над тэмай Чарнобыля працуюць зараз у Беларусі многія творцы. Але Уладзімір Гардзеенка здолеў адшукаць тут свой вобраз, сваю сцяжыну да тэмы, як, зрэшты, гэта было ў яго творчасці заўжды. Тэатральны мастак, ён тым не менш даволі хутка прыйшоў непасрэдна да жывапісу, зрабіўшы яго другой ці нават першай прафесіяй. За якую б тэму ён ні браўся — ці то гарадскі краявід, ці то партрэт — паўсюль вышукваў ён нестандартнае рашэнне, сумяшчэнне плоскасцей ці хаця б сам па сабе погляд збоку, зверху. І гэта ўменне абстрагавацца, абагульняць дапамагло яму знайсці ў дэталёва распрацаваных чарнобыльскіх работах экспрэсію колеру, фантастычна эмацыянальную хвалю, што не пакідае вас абыякавым і прымушае быць суперажывальнікам мастакоўскіх эмоцый.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: Ул. ГАРДЗЕЕНКА ў майстэрні; дзве яго работы з чарнобыльскай серыі.*





## ДОБРЫ КАЗАЧНІК АЗЁМША...

**Нарадзіўся Іван Паўлавіч Азёмша 145 гадоў назад у вёсцы Лучыцы цяперашняга Петрыкаўскага раёна (памёр у 1916 годзе). Змалку гадаваўся дапытлівым хлапчуком і меў цудоўную памяць, таму пазней мог расказваць мясцовыя паданні, казкі, апавяданні, што мелі фантастычныя сюжэты. Тэматыка іх была самая розная: стварэнне свету, існаванне чалавечай душы, замагільнае жыццё. Асобныя творы І. Азёмшы ўвайшлі ў фальклорныя зборнікі. Прынамсі, у кнізе А. Сержпутоўскага "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" з 80 твораў 32 запісаны ад Івана Паўлавіча.**

## І ПЕРАКЛАДЧЫК, І ФАЛЬКЛАРЫСТ...

**У гісторыю нацыянальнай навукі і культуры Напалеон Чарноцкі ўвайшоў як перакладчык і фальклярыст, а яшчэ як публіцыст. Нарадзіўся ён 13 ліпеня 1866 года, не стала яго ў 1937-ым. Прымаў удзел у перакладзе на беларускую мову і выданні на гектографе першага варыянта брашуры "Дзядзька Антон" (1885). На беларускую мову пераклаў п'есы А. Чэхава "Сватанне" і М. Крапіўніцкага "Пашыліся ў дурні". Аўтар брашуры "Як будзе з зямлёю?" (1907). У артыкуле "Да пытання пра беларускую народную школу", змешчаным у 1908 годзе (нумар за 10 красавіка) выступіў у абарону беларускай мовы, з прыязню пісаў пра творчасць Я. Коласа. Добра ведаючы нацыянальны фальклор, Н. Чарноцкі пакінуў апісанне батлейкі — "Батлейкі з ваколіц Начы".**

## ПРЫЗВАННЕ...



**Музейнымі работнікамі робяцца па прызванні. Як, напрыклад, Ірына Безабразава, нядаўняя выпускніца брэсцкай школы N 18, якая яшчэ ў пачатковых класах стала захапляцца гісторыяй, мастацтвазнаўствам, а цяпер працуе наглядальніцай Брэсцкага музея выратаваных каштоўнасцей. Іра завочна вучыцца ў Беларускай акадэміі мастацтваў.**

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## САТКАНА З САМОЙ ПРЫГАЖОСЦІ

**Усё тое, што зроблена таленавітымі рукамі выдатнага майстра дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Алены Кіш. Найперш гэта маляваныя дываны, на якіх адлюстраваны не проста казачныя сюжэты, а такія, у якіх шчодрая аўтарская фантазія дазваляе ж бы спалучаць у адно цэлае элементы беларускага фальклору з... экзотыкай дзіўных краін. А гэта добра адчуваецца ў яе работах "У райскім садзе", "Рай", "Дзева на водах"...**

**З асобнымі творамі Алены Андрэеўны жадаючыя змаглі ў свой час пазнаёміцца на выстаўцы, наладжанай прыхільнікамі яе таленту. Крыху пазней у выдавецтве "Беларусь" дзякуючы У. Ягоўдзіку з'явіўся альбом "Алена Кіш". Да твораў, прадстаўленых у ім, ён напісаў нарыс, у якім прасачыў жыццёвы і творчы шлях мастачкі.**

**На жаль, пераважная большасць са створанага Аленай Андрэеўнай, бадай, беззваротна страчана. Рэч у тым, што А. Кіш (а нарадзілася яна 100 гадоў назад у вёсцы Леніна цяперашняга Слуцкага раёна) не мела нейкага пэўнага пристанішча. І ў даваенны час (ды і ў пасляваенны таксама) любіла хадзіць па вёсках, знаходзячы прытулак у чужых людзей, якім і аддзячвала, малюючы дзівосныя дываны. А знайшла сваё апошняе пристанішча на могілках вёскі Грозава Капыльскага раёна ў 1949 годзе.**

Віншуем!

# Міхасю ЛАЗАРУКУ — 70



Нарадзіўся Міхась Арсеньевіч у вёсцы Ушаловічы Слуцкага раёна. Пасля вызвалення Случчыны быў прызваны ў армію, дайшоў да Берліна. У 1951 годзе М. Лазарук скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і паступіў у аспірантуру. Пасля заканчэння аспірантуры (1954) быў выкладчыкам, потым дацэнтам кафедры беларускай літаратуры, дэканам філалагічнага факультэта, а з 1971 года — прарэктарам гэтага ж інстытута. Паўтара года (1959—1960) працаваў на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. У 1978 годзе М. Лазарука прызначылі дырэктарам навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства народнай адукацыі БССР.

З крытычнымі артыкуламі М. Лазарук выступае ў друку з 1949 года. Аўтар даследаванняў і манаграфій "Пімен Панчанка" (1959), "Пытанні тэорыі літаратуры" (з А. Ленсу, 1964), "Станаўленне беларускай паэмы" (1968), "Беларуская паэма ў другой палавіне XIX — пачатку XX стагоддзя" (1970), зборніка крытычных артыкулаў "Часу непадуладнае" (1981) і іншых кніг, займаецца даследаваннем пытанняў методыкі выкладання літаратуры, гісторыі школы і педагагічнай думкі на Беларусі, падрыхтаваў шэраг дапаможнікаў, у тым ліку разам з В. Івашыным напісаў падручнік для 9 класа "Беларуская літаратура ў школе".

З днём нараджэння, шаноўны Міхась Арсеньевіч! Доўгіх год жыцця Вам, новых творчых поспехаў!

# "ВЯЛІКАЕ ЖУРЫ" СУПРАЦЬ БЕЗЗАКОННЯ

Пікеты, мітынгі, мірныя дэманстрацыі, што мелі месца ў Мінску 24 сакавіка, 2 і 26 красавіка, а таксама 30 мая сёлетняга года, засведчылі, наколькі напружанае становішча ў грамадстве, як узрастае супрацьстаянне, што, безумоўна, можа мець у далейшым самыя непажаданыя вынікі. Асабліва, калі ўлічыць, што праваахоўныя органы, спецпадраздзяленні Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь сваімі непрадуманымі дзеяннямі часта правакуюць грамадзян на непаслушэнства, парушаючы іх элементарныя грамадзянскія правы. Найбольш відочна гэта стала 30 мая. Гэты дзень, як вядома, пераканаўча засведчыў, як улады імкнуцца паказаць і даказаць сваю сілу, забываючы, што само насілле заўсёды выклікае адэкватную рэакцыю. Больш таго, ахоўнікі правапарадку ў камуфляжы, з дубінкамі ў руках збівалі не толькі тых, хто прымаў непасрэдны ўдзел у акцыях пратэсту, а і выпадковых прахожых, сярод якіх аказалася нямала моладзі, і нават дзеці.

У сувязі з гэтымі падзеямі, а таксама прымаючы пад увагу тое, што адбываецца сапраўднае наступленне на сродкі масавай інфармацыі (найперш недзяржаўныя, дэмакратычнага кірунку), а тым самым насельніцтва пазбаўляецца і права атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю, у рэдакцыі палітыка-прававой газеты "Феміда" з'явілася ідэя правядзення спецыяльнага "круглага стала", прысвечанага праблемам абароны правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Гэтую ініцыятыву ахвотна падтрымалі Беларускі ПЭН-цэнтр, Беларускі хельсінскі камітэт, Беларуская асацыяцыя журналістаў, а ў выніку 11 чэрвеня ў Доме літаратара і адбылося мерапрыемства, якое засведчыла, што перадавая частка грамадства не жадае мірыцца з насіллем, прававым "беспределом". Сярод удзельнікаў "круглага стала" былі вядомыя пісьменнікі, журналісты, юрысты, грамадскія дзеячы... Не засталіся ўбаку і дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі С. Багданкевіч, А. Бухвостаў, А. Лябедзька, У. Нісцюк. Былі запрошаны і тыя, хто ў згаданыя дні стаў ахвярай беззаконня. А яшчэ прысутнічалі прадстаўнікі найбольш вядомых у нашай дзяржаве грамадскіх арганізацый і рухаў, палітычных партый, Асацыяцыі амерыканскіх юрыстаў. У якасці назіральнікаў знаходзіліся прадстаўнікі замежных пасольстваў у Рэспубліцы Беларусь.

Сабралася так званае "Вялікае журы", каб, правёўшы грамадскае "судовае пасяджэнне", разабрацца, як абстаяць у краіне справы з захаваннем правоў чалавека, наколькі свабодныя ў суверэннай дзяржаве сродкі масавай інфармацыі.

З асаблівай увагай выслухалі прысутныя пацярпелых. Гэта і ўжо, можна сказаць, легендарны 19-гадовы глуханямы А. Лясун, які ў час работы "круглага стала" вымушаны быў даносіць свае думкі праз спецыяльную перакладчыцу, а праваахоўнымі органамі ён, як вядома, быў прызнаны ці не адным з галоўных хуліганаў, паколькі, маўляў, выкрыкваў антыпрэзідэнцкія лозунгі... Гэта і кранаўшчыца трактарнага завода В. Цярлюкевіч, якая пасля 30 мая правяла ў камеры прыёмніка-размеркавальніка 10 сутак і была вызвалена адтуль з даведкай, што знаходзілася ў ...выцвярэзніку. Віна жанчыны толькі ў тым, што яна ля ГУМа заступілася за падлетка... Гэта і Р. Селівончык, якую схапілі разам з сынам-школьнікам... Няцяжка ўявіць, што перажыла яна, пачуўшы раніцой такі жарт: калі падначаленых запытаўся ў начальніка: "А куды гэтых?", той адказаў: "Што з імі разбірацца, да ямы іх, у пясчаны кар'ер"... Гэта і...

Выступленні часам былі эмацыянальныя. Але як не зразумець людзей, якія за нішто былі арыштаваны, падвергліся знявазе, а то былі і збіты?! Можна зразумець і галоўнага рэдактара газеты "Беларуская маладзёжная" Т. Мельнічук, якая пераканалася, што такое "прававое насілле", калі ў яе на кватэры, дзе часова размяшчаецца рэдакцыя, быў праведзены вобыск. Шукалі ..."даляры" і ...кампрамат. Які — так і не раслумачылі.

Тое, што назіралася 26 красавіка, калі праводзіўся "Чарнобыльскі шлях", інакш як "свядомай правакацыяй улад" і не растлумачыш — упэўнены лідэр БНФ Ю. Хадыка. Як ён засведчыў, яшчэ напярэдадні ўсе дзевяць РАУС Мінска выпусцілі затрыманых п'яніц, бомжаў, каб вызваліць памяшканні для ўдзельнікаў "Шляху". Заявы ж аб экстрэмізме дэманстрантаў ён назваў "праяўленнем "мядзведжай хваробы" інтэлігенцыі. Ю. Хадыка пераканаы, што калі б з боку арганізатараў маніфестацыі ці ўкраінцаў быў сапраўдны экстрэмізм, дык 200 амонаўцаў, якія перакрылі праспект, проста былі б разарваны натоўпам.

"Паліцэйскі рэжым на Беларусі" ўзмацняецца" — гэта і думка прэс-сакратара БНФ У. Сіўчыка, які, як вядома, разам з Ю. Хадыкам вымушаны быў галадаць і толькі дзякуючы ўрачам застаўся жыць.

Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Ж. Літвіна засведчыла, што ў апошні час з аднаго боку, больш частымі сталі праследаванні журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі, якія хочуць гаварыць (і гавораць!) народу праўду, а, з другога, афіцыйнае тэлебачанне з дапамогай нескладаных прыёмаў пры мантажы адзнятага матэрыялу з тых, хто ні ў чым невінаўны, робяць вінаўных, і наадварот.

Не абышлі ўдзельнікі "Вялікага журы" і пытанняў прававога лікбезу. Гэта тычыцца як дзеянняў саміх удзельнікаў мітынгаў, пікетаў, дэманстрацый, так і Вярхоўнага Савета — асноўнага заканадаўчага органа Рэспублікі Беларусь, праваахоўных органаў. Законы павінны выконваць усе. Як сказаў кіраўнік фракцыі Вярхоўнага Савета "Грамадзянская згода" С. Багданкевіч, "круглы стол" павінен асудзіць дэспатызм улад і тых, хто ставарае ўмовы для дэспатызму. Разам з тым мы не павінны падтрымліваць экстрэмісцкія дзеянні дэманстрантаў, у гэтых умовах неабходна вытрымка. Але ж той, хто правакуе сутыкненні, хто парушае Канстытуцыю, — перашкаджае рэалізацыі права на свабоду шэсцяў і дэманстрацый.

Намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па правах чалавека У. Нісцюк быў перакананы, што ў час гаворкі нельга зацыклівацца на ацэнцы аднаго дня ў жыцці рэспублікі. Неабходны юрыдычны лікбез — і не толькі народу, а і парламенту. Многія дэпутаты нават не трымалі ў руках зборнікаў з законамі рэспублікі. Я, заявіў У. Нісцюк, пачынаю рыхтаваць законапраект аб дэманстрацыях, мітынгах, пікетаванні.

Удзельнікі "круглага стала" прынялі заяву аб праблемах правоў чалавека і сродкаў масавай інфармацыі на Беларусі, тэкст якой будзе перададзены парламенту, Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь, праваахоўным арганізацыям свету, пасольствам, палітычным партыям, грамадскім арганізацыям і рухам.

Адзначыўшы, што ў краіне завяршаецца працэс фарміравання антыдэмакратычнай паліцэйскай дзяржавы з усё больш частымі праяўленнямі сілавога супрацьстаяння ўлад у адносінах да легальнай апазіцыі, з усё больш відовчнымі сімптомамі націску на праваахоўныя органы, папіраюцца правы чалавека, ігнаруюцца і парушаюцца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, міжнародныя нормы і правілы, у тым ліку дакументы ААН — "Канвенцыя супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых гонар відаў абыходжання і пакарання", "Кодэкс паводзін афіцыйных асоб па падтрыманні правапарадку", удзельнікі "круглага стала" звяртаюцца да Вярхоўнага Савета РБ з заклікам — неадкладна разгледзець факты беззаконня, даць ім ацэнку і настаяць на прыняцці тэрміновых мер для пакарання вінаўных і прадухілення падобнага ў далейшым, а міжнародную грамадскасць, праваахоўныя арганізацыі заклікаюць звярнуць самую пільную ўвагу на сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь, што займае такое важнае становішча на карце Еўропы, бо, як сведчыць гісторыя, зараджэнне рэжымаў, падобных таму, які складваецца на Беларусі, небяспечна і заўтра можа быць позна.

Прыняты таксама Зварот да ўсіх юрыстаў і праваахоўных органаў Рэспублікі Беларусь.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Анонс

# КНІГА "Я" — ПРА ТВОЙ І МОЙ РАДАВОД

Калі не ведаеш, адкуль прыйшоў, то не ведаеш, куды пойдзеш, — так вучыць нас народная мудрасць.

Прызнаем: Ева і Адам — карані нашага чалавечага дрэва. Такая высхова стукаецца ў сэрца, калі пачынаеш усведамляць: хто Я? Калі пачынаеш плесці ланцужок свайго радаводу, калі хочаш разгадаць тайну сваёй сям'і, самога сябе.

У кожнага чалавека сваё Я. Кожны чалавек — Асоба! Кожнае чалавечае жыццё — Кніга! Вось і мая новая кніга называецца "Я". У аснову ўзяў людзей, якія жывуць пад прозвішчам Ліпскі. Яны, аказваецца, ёсць амаль ва ўсіх раёнах Беларусі, а карані іх адшукаў ажно ў дванаццатым стагоддзі ў Польшчы, Германіі, Амерыцы, Францыі, Аўстраліі...

Праз адзін род, выходзіць, можна вывучаць сваю Радзіму, гісторыю краіны, у якой нарадзіўся і жывеш.

Закрый вочы, сённяшняе Я, задумайся: хто былі твае прапродзічы гадоў трыста назад? І, веру, цябе апане неўтаймоўная цікаўнасць.

Буду рады і шчаслівы, калі мая кніга дапамажа табе разбудзіць інтарэс да сваіх прашчураў, калі табе захочацца пашукаць іх. Гэта абавязкова здарыцца, бо ў кнізе змешчаны шматлікія радаводныя гербы і схемы, архіўныя дакументы. Ёсць у ёй спіс усіх беларускіх шляхецкіх родаў ад А да Я.

Галоўны герой майго дакументальнага аповеду Я жыве пад рознымі імёнамі на ўсіх старонках кнігі. Ён жыве і сярод вас, і ў вас саміх. Дык успрымайце яго, якім ён ёсць, і станавіцеся багацейшымі ад гэтага знаёмства.

А кнігу "Я" рыхтуе да выдання вядомае ў рэспубліцы выдавецтва "Беларусь". Яна ўбачыць свет на пачатку 1997 года. І будзе каштаваць (разам з перасылкай) 50 тысяч рублёў. Усе, хто захоча набыць гэту кнігу, дасылайце ўказаную суму грошай на рахунак Таварыства сябры "Вясёлкі" N 3015212520013 у ГД Белбізнесбанка, код 764 у г. Мінску альбо па адрасе: 220048, Мінск, вул. Калектарная, 10, часопіс "Вясёлка", галоўнаму рэдактару Ліпскаму Уладзіміру Сцяпанавічу, з адзнакай за кнігу "Я". Укажыце абавязкова свой дакладны адрас, прозвішча, імя.

Мае шаноўныя чытачы! Вы, спадзяюся, зразумелі, які адказны абавязак узяў я на сябе, збіраючы ад вас грошы і рассылаючы вам кнігі. Іду на гэта свядома і чэсна, бо хачу, каб кніга "Я" трапіла да людзей цікаўных, нераўнадушных, якія любяць сваю Айчыну і хочуць ведаць свой радавод.

**Уладзімір ЛІПСКІ**

# ЖЫЦЦЁ І БЫТ

## З ПРЭЗІДЭНТАМ БЕЛБЫТСАЮЗА УЛАДЗІМІРАМ ЯГОРАВЫМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІМА" МІХАСЬ ЗАМСКІ

**М. Замскі: Не было на маёй памяці гумарыста-сатырыка, які б у сваім рэпертуары абмінуў тэму "ненавязлівага савецкага сервісу". Помніце славуты маналог райкінаўскага сантэхніка, які пачынаўся словамі: "Я свой бутэльброд з маслам заўсёды буду мець", маючы на ўвазе, што ў кожнай кватэры ён фігура, без якой не абысціся... Але жарты ў бок. Колькі б мы ні сцвярджалі, што не адным хлебам жывы чалавек, што дух, духоўнае павінна ў ім пераважаць, кажучы паруску, "среда обитания" кожнага індывідуума складаецца з сугуба матэрыяльных, празаічных рэчаў. Нават самы заўзяты тэатрал не рызыкне пайсці ў тэатр у дзіравых чаравіках, з якіх вытыркаюцца пальцы, або ў зашмальцаваным касцюме. Не трэба даводзіць, як могуць сапсаваць настрой, ды што настрой — жыццё і самаму вялікаму інтэлектуалу непрацуючыя халадзільнік ці тэлевізар, звычайны прас або пыласос, электраправодка, вадаправод і іншыя прадметы, якія акружаюць чалавека ў паўсядзённым жыцці. Нехта можа сказаць, што ўсё не вечнае, усё псуецца і ламаецца. Асабліва пры нашым славутым "качестве". Вось тут і павінна, Уладзімір Сяргеевіч, і прыйсці на дапамогу ваша служба бытавога абслугоўвання.**

**Дарэчы, шукаючы вашы каардынаты, я пазваніў у даведачную "09" і папрасіў даць мне тэлефон Міністэрства бытавога абслугоўвання. Аказваецца, я адстаў ад жыцця — такога міністэрства ўжо не існуе...**

**У. Ягораў:** Так, ужо некалькі гадоў яго функцыі ажыццяўляе Беларускі рэспубліканскі саюз прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, скарочана — Белбытсаюз.

**— Чым гэтыя змены былі выкліканы?**

— Тым, што змянілася сама структура галіны, набылі новае аблічча формы і змест бытавога абслугоўвання. Я маю на ўвазе раздзяржаўленне структурных падраздзяленняў гэтай сферы эканомікі.

**— Ёсць такое паняцце, як малая прыватызацыя, якая павінна, лічыцца, у першую чаргу пачынацца з магазінаў, цырульняў, шавецкіх майстэрань, фотаатэлье і іншага падобнага промыслу.**

— З 256 прадпрыемстваў нашай сістэмы толькі менш паловы застаюцца на сённяшні дзень цалкам дзяржаўнай уласнасцю. Астатнія або выкуплены іх калектывамі (форма калектыўнай уласнасці), або перададзены ў арэнду, або наогул выкуплены ў прыватную ўласнасць. Мала ў якой сферы эканомікі новыя формы ўласнасці набылі такое развіццё, як у нас.

**— Па даўняй завядзёнцы, перад тым, як сустрэцца з кіраўніком той ці іншай галіны народнай гаспадаркі краіны, я стараюся пабыць у нізавых структурах, пагутарыць з людзьмі, даведацца аб праблемах, якія іх турбуюць. Так і цяпер, перад тым, як сустрэцца з вамі, я завітаў у некаторыя дамы быту, цырульні, фотаатэлье, пункты хімчысткі адзення. Пэўнай нечаканасцю аказалася для мяне адсутнасць такой пасады, як дырэктар таго дому быту. Аказваецца, усе службы, якія тут размешчаны, ад майстэрні па рамонце абутку да пунктаў прыёму адзення ў хімчыстку і вырабу ключоў, існуюць абсалютна аўтаномна, з'яўляючыся арандатарамі памяшкання. "А каму паскардзіцца, калі ты нечым незадаволены?" — спытаў я ў загадчыцы майстэрні па рамонце абутку Галіны Левашкевіч у доме быту на праспекце Скарыны, 40 (акурат каля нашай рэдакцыі)? Жанчына паціснула плячыма: "Як каму — дырэктару фірмы "Яліна", да якой мы належым". Па яе словах, тая "Яліна", акрамя фабрыкі па пашыве і рамонце абутку, мае ў горадзе яшчэ 65 майстэрань, якія месцяцца ў арандаваных памяшканнях.**

— Яна вам усё правільна растлумачыла. Дадамо толькі, што "Яліна" з'яўляецца калектыўнай уласнасцю. Што гэта сабой уяўляе на практыцы? Праз гарадское ўпраўленне па прыватызацыі была зроблена ацэнка памяшкання фабрыкі, абсталявання, сыравіны і да т. п. Усё гэта было выкуплена калектывам прадпрыемства і стала калектыўнай уласнасцю. Кожны працаўнік тут цяпер мае сваю долю ўласнасці і калі пажадае выйсці з фірмы, яна яму будзе выплачана.

**— І ўсё-такі, гэта не прыватызацыя ў тым сэнсе, які мы звычайна ўкладаем у гэтае класічнае паняцце? Хутчэй за ўсё гэта свайго роду каапeратыў савецкага ўзору пры моцным дзяржаўным кантролі. Гэта значыць, пры мінімальнай самастойнасці.**

— Што тычыць самастойнасці, дык яе ў іх хапае. Калектыў той жа "Яліны" можа сваім рашэннем, да прыкладу, прадаць абсталяванне, якое яму непатрэбна, набыць новае, правесці змены ў кіраўніцтве і г. д. Гэта - пра абутнікоў. Свае аналагічныя фірмы і аб'яднанні маюць і цырульнікі (фірма "Усход"), і фатографы (фірма "Вілія"), іншыя службы бытавога абслугоўвання.

**— Я гутарыў з работнікамі цырульні, размешчанай на Лагойскім тракце, з фатографамі атэлье ў доме быту ля Камароўскага рынку, з іх наведвальнікамі. Ні тыя, ні другія, як я мог упэўніцца, не бачаць істотных змен у рабоце гэтых служб пасля таго, як тут змянілася форма ўласнасці. Загадчыца згаданай цырульні на Лагойскім тракце ніяк не магла ўцямна растлумачыць мне, што ўяўляе сабой іх фірма "Усход", якая тут форма ўласнасці. "Вам лепш пагаварыць пра гэта з кіраўніцтвам, яно пра ўсё гэта лепш ведае",—казала яна і скардзілася на высокія вытворчыя планы, якія амаль негмачыма выканаць. Відаць, яна не маніла, у разгар працоўнага дня цырульня была паўпустая.**

— Многія людзі цяпер і стрыгуцца, і голяцца, і робяць манікюр дома...

**— Дзіва што! Самая танная мужчынская стрыжка каштуе каля 30 тысяч**



**рублёў. Жанчынам розныя там укладкі валасоў, завіўкі, фарбоўка абыходзяцца ў 70-80 тысяч. Гэта ж амаль месячная мінімальная зарплата. Вар'яцкія цэны ў іншых службах. Адзін каляровы здымак — 30-50 тысяч, рамонт абутку — ад 15 да 50 тысяч, памыць кілаграм бялізны ў пральні самаабслугоўвання — 5-6 тысяч рублёў. Гэта — самаабслугоўвання, а ў звычайнай пральні яшчэ даражэй. Пералік падобны можна працягваць бясконца.**

**Невыпадкова кажуць, што калі ў цябе зламаўся тэлевізар ці халадзільнік — гэта амаль стыхійнае бедства.**

— Так, рамонт халадзільніка можа абысціся больш, як у мільён рублёў. А што вы хочаце — адзін кампрэсар каштуе паўмільёна. Дадайце да гэтага яго прывозку, устаноўку, іншыя работы — вось і набягае мільён з нечым. Вы здзіўляецеся, ці нават абураецеся тым, што дорага каштуюць бытавыя паслугі. Але ж не забывайце, у што нам абыходзяцца зыходныя матэрыялы — фотаплёнка, фотапапера, хімрэактывы ў тых жа фотаатэлье, парфума, фарба, спірт у цырульнях, клей, гума, скура, цвікі і іншы шавецкі матэрыял, металавырабы, ніткі, іголкі, швейныя і вязальныя машыны, біжутэрыя і да т. п. Можаце ўявіць, у ва што нам абыходзіцца, да прыкладу, перхлорэтылен, неабходны кампанент хімчысткі адзення, які мы завозім з Украіны і Башкірыі, штучныя хлорпрэнавыя каўчукі для вытворчасці абутковага клею з Ерэвана, бо ва ўсім СНД выпрацоўваюцца яны толькі там. Да распаду СССР нас абслугоўвала 362 прадпрыемствы краіны. З большасцю з іх сувязі цяпер парваны. Вось яшчэ прыклад. У свой час вялікім попытам у рэспубліцы карысталіся пральныя машыны "Волна" вытворчасці Горкаўскага аўтазавода. У Беларусі гэтай машынай карысталася амаль дзесяць працэнтаў насельніцтва. Пры ўсіх яе станоўчых якасцях адзін з вузлоў, менавіта цэнтрыфуга, у ёй вельмі часта выходзіла са строю. Апошнім часам мы літаральна завалены заяўкамі аб замене гэтых вузлоў. Вырашылі паехаць на Горкаўскі аўтазавод і дамовіцца аб пастаўцы нам тых цэнтрыфуг. Добра, кажуць там, але прадамо толькі за наяўныя грошы. А дзе ж мы возьмем наяўныя грошы? Паводле пастановы Нацыянальнага банка рэспублікі, абнаявіць можна толькі суму, якая не перавышае 50 мінімальных зарплат, гэта значыць — максімум 5 мільёнаў рублёў. Вось і прыехалі да хаты ні з чым. Узнікла была думка набыць гэтыя вузлы па бартэры. Але на бартэр сёння расіяне ідуць неахвотна, ды і, шчыра прызнаюся, рызыкоўная гэта справа — можам адвезці свой тавар і нічога не атрымаць узамен, такія выпадкі былі. Але мы не губляем надзеі тыя цэнтрыфугі набыць, думаем зноў туды накіраваць сваіх людзей, магчыма, удасца неяк дамовіцца.

**— Ці не ўсе нашы сённяшнія эканамічныя бядоты зараз спісваюцца на разрыў эканамічных сувязяў, які наступіў пасля развалу СССР? Але ж сусветная практыка сведчыць аб тым, што ніводная галіна эканомікі не можа спраўна функцыянаваць, калі будзе замыкацца ў межах адной краіны. Неаднойчы чытаў, што самыя буйныя таваравытворцы, скажам, тыя ж аўтамабільныя гіганты ў Злучаных Штатах Амерыкі, маюць сотні, а мо і тысячы пастаўшчыкоў ва ўсім свеце.**

— Там абсалютна іншая, так бы мовіць, дысцыпліна паставак. Фірма ці прадпрыемства, якія парушылі дамоўленасць аб тэрмінах паставак нейкіх вузлоў ці дэталяў (аб іх якасці я ўжо не кажу) таму ж Форду, выбываюць з "гульні". Ад іх паслуг адразу адмовяцца.

**— Абсалютна з вамі згодны. Таму што ёсць зацікаўленасць, зацікаўленасць прыватніка. Але пра гэта мы з вамі яшчэ, спадзяюся, пагаворым. Давайце вернемся да балючага пытання цэнаўтварэння. Так, вашы аргументы аб дарагоўлі зыходных матэрыялаў, якія вам даводзіцца набываць, гучаць пераканаўча. Вы маглі б дадаць да гэтага і падаткі, і кошт арэнды памяшканняў, камунальных паслуг — вады, цеплазабеспячэння, электраэнергіі і да т. п., якія таксама няспынна растуць.**

— Не тое слова — у агульных выдатках плацяжы за камунальныя паслугі займаюць значнае месца.

**— І ўсё-такі мне незразумела, чаму толькі выклік майстра па рамонце халадзільніка, ці тэлемайстра абыходзіцца кліенту ў 50 тысяч рублёў? Толькі за выклік! А ён можа прыйсці і сказаць, што нічым дапамагчы не можа — няма дэталяў, вузлоў і да т. п. Або пахаванне нябожчыка, якое, жах падумаць, каштуе некалькі мільёнаў рублёў. Ну якія ўжо тут вы церпіце выдаткі? Дарэчы, які сярэдні заробак у сферы бытавога абслугоўвання?**

— Летась ён склаў 622 тысячы рублёў.

**— Шаўцы, з якімі я размаўляў, казалі што зарабляюць больш як мільён.**

— Гэта ў горадзе. У сельскай мясцовасці толькі 200-300 тысяч. Сядзяць без працы. Толькі за мінулы год мы згубілі 28 працэнтаў сваёй кліентуры.

**— Зачараванае кола. Вы губляеце кліентуру з-за дарагоўлі паслуг і, разам з тым, з-за гэтага несяце вялікія страты. Але ж, знізіўшы кошт паслуг, вы б вярнулі тыя, згаданыя вамі,28 працэнтаў кліентаў, якія цяпер лічаць за лепшае не мець з вамі справу, ды прывабілі б новых.**

— Няма такога дня, каб мы не займаліся пытаннямі ахопу бытавымі паслугамі як мага большага кола насельніцтва, у тым ліку і за кошт павышэння якасці гэтых паслуг, лепшага абслугоўвання і г. д. Але пайсці на зніжэнне цэн мы не можам. Мы тады проста, як кажуць, вылецім у комін.

**— Якая рэнтабельнасць на прадпрыемствах вашай галіны?**

— Усяго 5 працэнтаў. Некалі яна складала 15-30 працэнтаў. Так што ў нас амаль не застаецца сродкаў на аднаўленне вытворчасці, а трэба ж купляць абсталяванне, нешта будаваць і г. д. Гэта — па-першае. Па-другое, не трэба забываць, што Белбытсаюз — утварэнне дзяржаўнае, хоць у яго сістэме і існуюць розныя формы ўласнасці. І кіруемся мы ў тым жа цэнаўтварэнні, як і ў іншай сваёй дзейнасці адпаведнымі ўказаннямі і інструкцыямі Кабінета Міністраў краіны.

**— І многа такіх інструкцый?**

— Вось такая папка (паказвае на тоўстую папку на сваім стале) у кожным аддзеле. Ды бяда не ў колькасці, бяда ў тым, што яны пастаянна мяняюцца. Да прыкладу, сёлета ў сакавіку мы атрымалі некаторыя інструкцыі, якімі нам трэба было кіравацца з самага пачатку года. Але ж прайшло ўжо амаль тры месяцы, многае зроблена, і пачынаюцца званкі, што рабіць, як звесці канцы з канцамі, каб не парушаць тую інструкцыю.

**— І, ўсё-такі (я зноў за сваё!), пашырыць сваю кліентуру без зніжэння кошту паслуг вам не ўдасца. Больш спажыўцоў, больш таваразварот — рэчы мне, здаецца, відавочныя.**

— Ды нават калі б мы мелі магчымасць знізіць цэны ўдвая, яны б, пры цяперашнім збядненні насельніцтва, многім былі б не па кішэні. Вось вам такі прыклад. Некалі нашы абутковыя прадпрыемствы шылі ў год па 1 мільёну 200 тысяч пар абутку. І ўвесь ён раскупляўся. Летась было выпушчана 800 тысяч, але і гэта не ўдалося рэалізаваць.

**— У любой краіне з рыначнай эканомікай гаспадар таго абутку адразу б скасціў цану і прадаў бы яго. Невыпадкова, там практыкуюцца сезонныя распродажы тавараў па нізкіх цэнах. Хоць, думаю, прадпрымальнікі пры гэтым прагараюць. За кошт хутчэйшага звароту сродкаў яны, як кажуць, "навёрстывают упущенное". Але навошта я вам гэта кажу, калі вам на гэта патрабуецца адпаведны дазвол урада, а тамашні чыноўнік нізавошта не возьме на сябе такую адказнасць.**

**Вось тут, відаць, да месца закрануць тэму прыватнага прадпрымальніцтва ў галіне бытавога абслугоўвання насельніцтва. Прыватная шавецкая майстэрня, прыватная цырульня, прыватнае фотаатэлье, прыватнік-майстар па рамонце гадзіннікаў і г. д., і да т. п. Што можа быць больш натуральным? У кожнай цывілізаванай краіне, дзе дбаюць пра інтарэсы чалавека, менавіта на іх трымаецца ўся сфера паслуг. Вы ж, Уладзімір Сяргеевіч, мабыць, бываеце ў замежных камандзіроўках, хоць у той жа Польшчы, хіба там бытавое абслугоўванне — не ў руках прыватніка?**

— Прыватніка. Я быў у Германіі, дзе цікавіўся арганізацыяй хімчысткі адзення. Зайшоў у адну, па-нашаму, "хімчыстку". Вялізны светлы пакой, самае сучаснае абсталяванне, працуюць два майстры. Стаіць чарга. Не сказаць, каб вялікая, але — чарга. Вы кажаце пра высокія цэны ў нас. Дык вось, хімчыстка штаноў у немцаў каштуе 5 марак, на нашыя грошы — 40 з нечым тысяч рублёў. У нас такая аперацыя абыходзіцца кліенту ў меншую суму.

*(Працяг на стар. 15)*

## ВЕЧНАЗЯЛЁНАЕ ДРЭВА РАМЁСТВАЎ



— так называецца выстава народнай творчасці, якая адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Яе мэта — паказаць сучасны стан гэтага віду нацыянальнай культуры, асаблівасці і характар народнага мастацтва ў нашы дні. Экспазіцыя пабудавана па рэгіянальным прынцыпе, што дае магчымасць параўноўваць развіццё рамёстваў у розных мясцінах рэспублікі. Тут прадстаўлены ўсе віды рамёстваў, якія бытавалі з даўніх часоў на нашай зямлі: ткацтва і разьба па дрэве, саломапляценне і ганчарная справа, лазапляценне і інкрустацыя, вышыўка. А такія віды народнай творчасці, як ткацтва, выцінанка, саломапляценне, захаваўшы традыцыю, узбагаціліся яшчэ і новымі матывамі, узорамі, а каларыт стаў больш яркі, насычаны.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**



*На здымках: у залах выставы. Фота аўтара.*

## АСІПОВІЧЫ — ФРАНЦУЗСКАЯ ПРАВІНЦЫЯ



**"Правінцыйны французскі гарадок" — так назваў сваю работу малады мастак-кераміст з Асіповічаў Ігар Журакоўскі. Гэта набор гліняных шахматных фігур, выкананых у своеасаблівым стылі. Сёлета Ігар паступае ў Інстытут культуры на аддзяленне "Беларускія мастацкія рамёствы", а таму гэта ягоная работа з глінай, трэба меркаваць, не апошняя.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЛЕСІ УКРАІНКІ

Сярод геніяў украінскага прыгожага пісьменства асобае месца займае Леся Украінка (1871—1913), выдатная паэтэса, драматург, перакладчыца, крытык, публіцыст... Творы яе даўно заваявалі ўсеагульнае прызнанне ў сябе на Бацькаўшчыне, перакладзены на дзесяткі моў народаў свету. Асобныя з іх публікаваліся і ў перакладзе на беларускую мову як у перыёдыцы, так і ў кніжных выданнях.

Сапраўдным шэдэўрам Лесі Украінкі з'яўляецца драма-феерыя ў 3-х дзеях "Лясная песня" (1911). У гэтым творы ўкраінскі фальклор і родная для пісьменніцы валынская язычніцкая міфалогія ўзняты да вышыні ўсечалавечых праблем — этычных, экалагічных, філасофскіх. Сваёй праблематыкаю, вобразамі-персанажамі, матывамі, нават характарам самой міфалогіі "Лясная песня" надзвычай блізкая і нам, беларусам, асабліва жыхарам беларускага Палесся.

Упершыню "Лясную песню" на беларускую мову пераклаў Х. Жычка сорак гадоў таму назад, у час падрыхтоўкі да выдання кнігі "Вершаў і паэм" Лесі Украінкі (1957). Прапануем сёння ўвазе чытачоў урывак з I-й дзеі драмы-феерыі ўзяты з новага, другога па ліку, яе поўнага беларускамоўнага прачытання. Узнік гэты пераклад не толькі таму, што мне захацелася узнавіць нешта па-новаму, больш дакладна, на ўзроўні сённяшніх вымог мастацкага перакладу, але і з жадання прыпасці да чыстай крыніцы Лесінага слова, яшчэ раз адчуць яго свежасць і гаючасць. Бо словы гэтае жыццядайнае і вечна жывое.

Рады буду, калі гэта адчуюць і чытачы перакладу.

**Вячаслаў РАГОЙША**

Леся УКРАІНКА

# ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

### ДЗЕЯ 1

Узлессе ўсё роўна як заслонена пяшчотнай зялёнай вуаллю, дзе-нідзе ўжо і вершаліны дрэў пацягнуты зялёнаю фарбаю. Возера стаіць поўнае, у зялёных берагах, як у руцвяным вянку.

З лесу на паляну выходзяць дзядзька Леў і яго пляменнік Лукаш. Леў ужо стары чалавек, паважны і дужа добры з выгляду; па-палеску доўгія валасы белымі хвалямі спадаюць на плечы з-пад сівой ваўнянай шапкі-рагаткі; апрануты Леў у палатнянае адзенне і ў светла-шэрую, амаль белую світку; на нагах пасталы, у руках клоўня (малая рыбацкая сетка), каля пояса на папружцы сцізорык, цераз плячо — сплецены з лыку кашэль на шырокім рамяні.

Лукаш — вельмі малады хлопец, прыгожы, чарнабровы, стройны, у вачах яшчэ нешта дзіцячае; апрануты таксама ў палатнянае адзенне, толькі з танчэйшага палатна; кашуля навыпуск, мярэжаная беллю, з адкладным каўняром, падпяразаная чырвоным поясам, каля каўняра і на манжэтах — чырвоныя засцежкі; світкі ён не мае; на галаве брыль; на поясе сцізорык на матузку і конаўка з лыку.

Дайшоўшы да берага возера, Лукаш спыніўся.

**Леў**

Чаго ж ты прыпыніўся? Тут жа нельга
дайсці да рыбы. Іліста і гразка.

**Лукаш**

Ды я хацеў бы выразаць жалейку —
чарот на гэта тут у самы раз.

**Леў**

Жалеек тых даліха ты ўжо маеш!

**Лукаш**

Ну, колькі ж іх? — з вярбы, каліны
ды з ліпы — вось і ўсё! А трэба
зрабіць яшчэ з чароту,
бо яна найлепей грае.

**Леў**

Ат, пазабаўляйся,
на тое свята Бог даў.
Заўтра ж прыйдзем
хаціну ставіць тут. Бо час ужо
скаціну выганяць у лес. Вунь бачыш,
як навакол трава зазелянела?

**Лукаш**

Няўжо на гэтым месцы мы асядзем?
Мясціна, кажуць людзі, тут ліхая...

**Леў**

Як для каго. Я ведаю, нябожа,
каля чаго і як з чым абысціся:
дзе крыж паставіць,
дзе ўвагнаць асіну,
дзе проста тройчы плюнуць,
ды і годзе.
Пасеем ля хаціны мак-відук,
пасля пасадзім цёран ля парога
і не дамо злой сіле падступіцца.
Ну, я пайду, а ты сабе як хочаш.

Расходзяцца. Лукаш ідзе да возера і знікае ў чароце. Леў ідзе па беразе і паступова знікае за вербамі.

**Русалка**

*(выплывае на бераг і крычыць)*
Дзядуля! Лесавік! Бяда! Ратуйце!

**Лесавік**

*(малы, барадаты дзядок, рухавы, з сур'ёзным выглядам; у рудой вопратцы колеру кары, у валахатай шапцы з куніцы)*
Чаго табе? Чаго крычыш?

**Русалка**

Там хлопец
чарот на дудкі рэжа!

**Лесавік**

Ну і што?
Каб той бяды! Якая ты скупая!
Вось тут хаціну будуць будаваць —
я й то не бараню, абы не секлі
сырое дрэва.

**Русалка**

Ёечкі! Хаціну?!
Дык людзі ж будуць тут?!
Ой, тыя людзі
з-пад саламяных стрэх!
Я не цярплю іх!
Саломеннага духу не трываю!
Я іх таплю, каб вымыць у вадзе
той ненавісны дух. Заласкачу
тых набрыдзяў насмерць!

**Лесавік**

Не гарачыся!
Бо дзядзька Леў паселіцца ў хаціне,
а ён наш сябар. Гэта жартам ён
асінаю ды цёрнам нас пужае...
Люблю старога. Бо калі б не ён,
даўно, даўно ўжо гэты дуб
сканаў бы,
што столькі бачыў нашых сходак,
танцаў
і лесавых вялікіх таямніцаў.
Яго ўжо немцы мералі, наўкола
утрох пасталі, ўзяўшыся за рукі —
і ледзьве абнялі. Давалі грошы,
ды дзядзька Леў запрысягнуў
жыццём,
што дуб не дасць нікому спілаваць.
Тады ж і я на бараду пакляўся,
што дзядзька Леў і ўся яго радня
век не сустрэнуць крыўды
ў гэтым лесе.

**Русалка**

Ого! А бацька мой
ўсё роўна іх утопіць!

**Лесавік**

Няхай не мерыцца! Бо завалю
я возера да дна апалым лісцем!

**Русалка**

Ой, ліханька, як страшна! Ха-ха-ха!
*(Знікае ў возеры)*

Лесавік нешта бурчыць, закурваючы люльку, потым сядае на калоду. З чаротаў выплывае ціхі голас жалейкі — мілагучны, пераліўісты. І па меры таго як ён ажыўляецца, ажывае ўсё ў лесе. Спачатку на вярбе і вольхах задрыжэлі завушніцы, затым бяроза лісцем залепятала. На возеры распусціліся белыя лілеі і пазалацелі кветкі лотаці. Шыпшына паказала далікатныя бутоны. З-за камля старой, напалову ўсохлай, расшчэпленай вярбы выходзіць Маўка, у светла-зялёным адзенні з распушчанымі чорнымі, з зялёным адлівам, косамі, распраўляе рукі і праводзіць даланёю па вачах.

**Маўка**

Ой, як я доўга спала!

**Лесавік**

Доўга, дочка!
Ледзь сон-трава не адцвіла зусім.
Вось-вось зязюля маселка саб'е,
чырвоныя пантофелькі абуе
і распачне лічыць гадочкі людзям.
Папрыляталі з выраю ўжо госці:
вунь жоўтыя пушынкі-качаняткі
на чыстым плёсе
бавяцца гульнёй.

**Маўка**

А хто мяне збудзіў?

**Лесавік**

Відаць, вясна.

**Маўка**

Вясна яшчэ ніколі не спявала
так, як цяпер. Ці гэта, можа, сон?

Лукаш зноў іграе.

Не... чуеш? Во! Няўжо вясна спявае?

Лукаш іграе тую самую мелодыю, толькі ўжо бліжэй.

**Лесавік**

Не, гэта хлопец грае на жалейцы.

**Маўка**

Які хлапец?

Мо "Той, што грэблі рве"?
Вось не чакала ад яго такога!

**Лесавік**

Ён чалавек, пляменнік дзядзькі Льва,
Лукаш завецца.

**Маўка**

Я яго не знаю.

**Лесавік**

Бо ён упершыню тут. Не тутэйшы,
здалёку сам, аж з тых бароў сасновых,
дзе наша баба зімаваць так любіць;
асірацеў ён з маці-удавою,
дык дзядзька Леў прытулак
даў абоім...

**Маўка**

Хацела б паглядзець я на яго.

**Лесавік**

Нашто табе ён?

**Маўка**

Пэўна, ён прыгожы!

**Лесавік**

Ты на хлапцоў людскіх не заглядайся.
Лясным дзяўчатам гэта небяспечна...

**Маўка**

Які ж, аднак, дзядуля, стаў ты строгі!
Няўжо мяне ты так трымаць уздумаў,
як Вадзянік Русалку?

**Лесавік**

Не, дзіцятка,
цябе я не трымаю. Гэта той,
як толькі можа, у дрыгву гнілую
жывое ўсё засмоктвае. А я
звык волю шанаваць.
Гуляй з вятрыскам,
пабаўся з Пералеснікам. А хочаш,
то сілы вод, лясоў, паветра, гораў
прываблівай к сабе і прычароўвай,
але старонься сцежак чалавечых,
бо там не ходзіць воля — там журба
цяжар свой носіць. Абмінай іх, доня:
раз толькі ступіш — і прапала воля!

**Маўка**

*(смяецца)*
Ну як жа так, каб воля — ды прапала?
Так некалі і вецер прападзе!

Лесавік хоча штосьці адказаць, але выходзіць Лукаш з жалейкай. Лесавік і Маўка хаваюцца.

Лукаш хоча надрэзаць нажом бярозу, каб спусціць сок. Маўка кідаецца і хапае яго за руку.

**Маўка**

Не руш! не руш! не рэж! не забівай!

**Лукаш**

Ды што ты, дзеўчына?
Ці ж я разбойнік?
Я толькі захацеў пакаштаваць
бярозавіку.

**Маўка**

Гэта ж кроў яе!
Не пі, не пі крыві маёй сястрыцы!

**Лукаш**

Бярозу ты сястрою называеш?
Хто ж ты такая?

**Маўка**

Я — лясная маўка.

ПОГЛЯД ЗБОКУ

# "ШЛЯХІ ЎКРАІНЦАЎ І БЕЛАРУСАЎ РАЗЫХОДЗЯЦЦА..."

***Імя Германа Бідэра нашы чытачы ўжо сустракалі на старонках "ЛіМа". Вядомы славіст з Аўстрыі неаднойчы наведваў Мінск, у тым ліку і як удзельнік з'езда беларусістаў. Як і многія іншыя даследчыкі, ён прыйшоў да беларускай праблематыкі праз цікавасць да ўкраінскай культуры. Вось чаму ў навуковых працах (сваіх і калег), якія даслаў нам Герман Бідэр, мы сустракаем параўнаўчы аналіз моўнага становішча Беларусі і Украіны.***

**Герман БІДЭР**
(Зальцбург)

"ПЕРСПЕКТЫВЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРМАТЫЎНАЙ МОВЫ (РУСІФІКАЦЫЯ ЦІ БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ МОЎНЫХ НОРМАЎ)"

"Цэнтральнае пытанне: ці беларуская мова як мова выжыве і ці вытрывае яна канкурэнцыю з магутнай рускай? Увядзенне рускай як другой дзяржаўнай мовы (поруч з беларускай, што з 1990 г. фармальна была зацверджана як адзіная дзяржаўная) азначае, што ніхто больш не будзе прыкладаць намаганняў, каб беларускую мову ўжываць у адміністрацыі, у школе, у навуцы (у радыё і тэлебачанні яе выкарыстоўваюць), паколькі большая частка дэнацыяналізаванага насельніцтва не будзе звязваць з ёю будучыні і ад руска-беларускага двухмоўя пяройдзе на адну рускую мову. У святле нядаўніх падзей паўстае такім чынам не столькі пытанне "Русіфікацыя ці беларусізацыя нарматыўнай мовы?", колькі іншае: "Ці ў стане вызначыцца з усяго гэтага хоць адна сапраўдная мова?"

*З выдання "Славянскія мовы", 44/1995.*

**Юліяна БЭСТЭРС-ДЗІЛЬГЕРС** (Вена)

"РЭЦЭПТЫ РУСКАМОЎНАЙ ПАЛІТЫКІ НА БЕЛАРУСІ І ЎКРАІНЕ"

"Мала вядомы ўказ Пятра І 1720 г., у якім патрабавалася ўсе маларускія (г.зн. украінскія) шрыфты перарабіць на рускія. Гэтая забарона са стагоддзя ў стагоддзе станавілася ўсё больш жорсткая. Напрыклад, з 1859 г. не дазвалялася друкаваць па-беларуску, з 1863 забаранялася ўкраінская мова ў школе, друкаванне кніг, ужыванне на сцэне і г.д. Гэта рабілася на фоне варожасці да Польшчы і нібыта было абаронай ад польскамоўных уплываў".

"Тэма, што зараз актыўна дыскутуецца ў асяроддзі беларускіх мовазнаўцаў — беларуская мова да рэформы 1933 г., якая дэ факта праз арфаграфічныя і марфалагічныя аб'яднанні была моцна русіфікавана. Гэта рабілася не для развіцця, а для нацыянальнай асіміляцыі, рэч ясная. Цікава прыгадаць, што ўжо падчас першай сусветнай вайны менавіта немцы, хоць і з пэўнымі палітычнымі мэтамі, пацвердзілі, што беларуская мова — гэта самастойная мова, а не нейкі там дыялект рускай".

"Цікавыя факты перапісу насельніцтва 1989 г. 12,3% украінцаў было цалкам русіфікавана, бо яны, называючы сябе ўкраінцамі, сваёй роднай мовай лічылі рускую. Для беларусаў, якім родная руская мова, гэты працэнт быў — 19,73. Гэта вяло да з'яўлення змешанай моўнай практыкі. На Беларусі гэта так званая трасянка, на Украіне — суржык. Што тычыцца ўсяго складу насельніцтва за 1989 г., то яны падаюцца наступным: Беларусь — 10,15 млн., сярод іх 78%, гэта значыць 7,9 млн., лічаць сябе беларусамі. На Украіне жывуць 52 млн. 39,2 млн. — украінская большасць, таксама 75%. Так што ёсць надзея на захаванне гэтых моў, бо нават у Расійскай Федэрацыі, дзе карэнныя этнасы на сваёй этнічнай тэрыторыі хоць часам і маюць менш 50%, але мову захоўваюць. Ёсць і асаблівы псіхалагічны стэрэатып у беларусаў. Іх песімізм і абыякавасць да роднай мовы грунтуецца на тым, што іх народ нібыта "вельмі маленькі".

"У 1772—1918 гг. Заходняя Украіна ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі (Галіцыя) і толькі ў 1940 г. была захоплена Савецкім Саюзам. Была вялікая розніца між усходнеўкраінскай і заходнеўкраінскай мовай, і менавіта заходні варыянт быў больш прадуктыўны для фарміравання літаратурнай мовы. А друкаваная культура беларусаў скончылася ў XVII ст. і адрадзілася толькі ў XIX ст., але без звароту да колішніх норм старабеларускай мовы.

У аб'яднанні украінскай мовы вядучую ролю адыграў Шаўчэнка. На Беларусі ў сярэдзіне XIX ст. не было моцнага беларускага свядомага руху, бо эліта дзялілася на польскую і русіфікаваную. Нават такое было, што ў галіцынскім Кракаве друкаваліся творы Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча. Толькі зараз пра гэта прыгадваюць, як пра вялікую нацыянальную трагедыю".

"За два лічаныя гады Незалежнай Украіны 1918—1920 гг. была ліквідавана русіфікатарская школа. Беларуская фаза незалежнасці цягнулася адно з сакавіка па верасень 1918 г. Таму і зараз беларусы часта спасылаюцца толькі на прыклад свайго Адраджэння ў 1905—1915 гг., а не на іншыя часы".

"Актыўныя ўкраінскія эмігранты ў Канадзе, ЗША, Германіі стварылі асяродкі ўкраіністыкі. У гэтым сэнсе беларуская эміграцыя была менш вядомая".

"Яшчэ трошкі статыстыкі. У канцы савецкага перыяду 60% украінцаў жыло ў гарадах. Беларусаў — 75%. Беларусь мае самую вялікую ступень урбанізацыі ва ўсім былым СССР. Тут ёсць спецыфічныя праблемы, бо вясковае насельніцтва лепш захоўвае родную мову. У Мінску ў 1993 г. па-беларуску размаўлялі 2%, хоць эліта імкнецца прапагандаваць мову".

"Шляхі ўкраінцаў і беларусаў прыкметна разыходзяцца. У той час, як прэзідэнт Кучма, хоць на кепскай, але ўкраінскай мове чытае свае прамовы, беларускі прэзідэнт Лукашэнка праводзіць рэферэндум. І бачыць эйфарычную карціну аднаўлення СССР, ядром якога будзе Беларусь—Расія".

*З выдання "Славянскія мовы", 44/1995.*

**Герман БІДЭР**

"САЦЫЯЛЬНАЛІНГВІСТЫЧНЫЯ АСПЕКТЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ"

"Руская мова — мова нацыянальнай меншасці. Па дадзеных 1989 г. у Беларусі ўсяго 22% нацыянальных меншасцей. 13,2% рускіх, 4,1% палякаў, 2,9% украінцаў і г.д. Але на самай справе руская мова мае вельмі актыўнае пашырэнне, бо тут яшчэ спрацоўвае стэрэатып савецкага часу. Узнікае адчуванне, што беларусы ў маштабах былога толькі меншасць. А руская мова — магутная мова большасці".

"30% беларусаў, аказваецца, ведаюць толькі беларускую мову. Цікавы тэрмін "трасянка", які азначае пэўны варыянт самаабароны беларусаў перад русіфікацыяй. Такая мова індэферэнтных асоб сустракаецца не толькі на бытавым, але і на афіцыйным узроўні. Трасянка ёсць нават у друку!"

"Праблемы рэформы мовы маюць два лагеры: рэфарматары і кансерватары савецкай нормы. Рэфарматары патрабуюць вяртання мяккага знака, яны змагаюцца супраць скажэнняў у склонах (не *ў садах*, а *ў садох*, *вартасцяў*, а не *вартасцей* і г.д.).

У галіне анонімаў змагаюцца яны за вяртанне спецыфічна беларускіх імёнаў (Янка, а не Іван) і за колішнія назвы тыпу Менск. Не вельмі радуе іх 70% інтэрнацыянальных (русіфікаваных) тэрмінаў у розных галінах мовы. Нарэшце пачалі выдавацца адпаведныя слоўнікі. У друку інтэлектуалы пераходзяць на тарашкевіцу. Гэтым адрозніваецца незалежны друк. Многія спадзяюцца, што пасля паралельнага існавання дзвюх літаратурных форм пераможа варыянт рэфарматараў. Але каб пераадолець непатрэбны крызіс у такі складаны для развіцця мовы час, трэба як традыцыяналістам, так і рэфарматарам шукаць кампрамісаў".

*З берлінскага часопіса "Цайтшрыфт фюр Славістык", 40/1995.*

**Пераклад з нямецкай Яўгена ШУНЕЙКІ**

---

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Прэзідэнцкі тэатр, прэзідэнцкі аркестр, прэзідэнцкі палац, прэзідэнцкая рэзідэнцыя, нават стыпендыя прэзідэнцкая. Дбае пра інтэлігентнасць прэзідэнт, адно што мова ў нас не прэзідэнцкая.

•

Адзін працаваў запоем, другі не лічыў кілішкі. Згарэлі імкліва абое — каго красяць лішкі.

•

З Эрнеста Хемінгуэя. У лаканізме мяне папракалі неаднойчы, а я інакш не магу — я ж пішу стоячы, падабраўшы нагу.

•

Заложнікі трох вятроў, заложнікі трох дзяржаў, заложнікі трох АЭС — Чарнобыльскай, Смаленскай, Ігналінскай, плацім усё даражэй за электрычную плынь і трывожна ўглядаемся ўдалячынь — адкуль наваліцца ліха. Што нам рабіць цяпер, заложнікам СССР?

•

Указ "Аб далейшых захадах па ўкараненні культу асобы". Улічваючы, што культ асобы гэта для краіны вучоба, а крытыка культу асобы — пераадоленая хвароба, што стыхійная крытыка знізу вядзецца без экспертызы, ускосна б'е па ўраду і ўсталяванаму ладу, што на ахове правоў чалавека стаяць у нас недарэкі, якія трымаюцца законаў, не зважаючы на персоны, — забараніць усялякую абразу асоб, што твораць указы, і надалей культ асобы дзейсна ўкараняць у побыт.

•

Да ўвагі ўладальнікаў сабак. У некаторых шапіках прадаюцца косткі, якія нядобрасумленныя гандляры выдаюць за штучныя. Косткі — з нашых мясакамбінатаў. На сапраўдных штучных костках звычайна значыцца: "Made in..." Асцерагайцеся падробкі костак пад замежныя!

•

Прэзідэнт адбірае льготы, і я — за ўраўняльны працэс. Бо мабілізуем сродкі не без дай прычыны. Якая ж гэта роўнасць, калі за безбілетны праезд аднаго штрафуюць цалкам, а другога напалавіну? Заплацім штраф абое — і прэзідэнт набудзе "Боінг".

•

З Карэла Чапека. І мой агонь вечны, казала запалка, калі ляцець куляй, а не плесціся за катафалкам.

•

У гэтым каўказскім калгасе Герояў было шмат. Штогод увесь ураджай звозілі ў адну брыгаду. Яна атрымлівала Зорку, астатнія станавіліся ў рад, упэўненыя, што наступным будзе той, хто ззаду... На сцэнічных пляцоўках нельга так збіраць ураджай, але можна таксама па чарзе размяркоўваць узнагароды. Як наконт такой прапановы, спадары тэатральныя верхаводы, хто там у нас чарговы?

•

Буйная фігура, хоць далёка не талент, уладальнік прэмій, а ў тэатры — ніхто. З рознай нагоды мільгае між намі, хоць у лепшым выпадку — упрыгожанне "Спортлато".

•

Стаіць у скверы сабака з пенаю на губе, стаіць, нібы ён — абшару таго ўладальнік, такі манументальны, як помнік самому сабе... Хто ты быў у мінулым жыцці, сабака, — начальнік? Мая палахлівая такса не болей, мабыць, чым сакратарка.

•

Што сказаць табе, шпунт, аб вясне? Паглядзі, які чорны снег, паглядзі, які сіні шпак, чуеш, звонка пяе глушак, б'е ў вочы сляпы прамень, аж да ночы празрысты цень, кветка дёрзка свідруе снег — вось што дзеецца па вясне.

•

У Беларусі забаронена сеяць мак, наркотны, кажуць, які там смак. Раней змагаліся з васільком, выкінулі нават з герба дзяржавы — нашто вам, маўляў, пустазелля выявы. А я б хацеў, каб кожны дзівак мог купіць сабе крэндзель з макам, каб да нас не завозілі мак з Ірака і каб па-ранейшаму васільком расшывалі андаракі.

•

Колькі на Беларусі помнікаў "правадыру"? Ва ўсіх раёнах, ці не па ўсіх заводах. Археолагі калісь наш гістарычны слой назавуць, мабыць, "культурай Валодзі". А там паявяцца новыя правадыры, новыя пудзілы на гародах, гістарычныя слаі — яны ж без зводу.

•

Паводкі, буры, дажджы, пустазелле, засуха, град — шмат па якіх прычынах чэзне калгасны лад. Дык мо і ў нашых заводаў галоўны вораг — прырода?

•

Пасрэднасць, кажаце, ніякіх перспектыў? А як далёка крочаць пасрэднасці? Каго, звычайна, абірае калектыў? Не шкоднага, сярэдняга. Хто, бывае, кіруе лаўрэатамі? Нlanguage нядатныя, дурнаватыя. Сын прынёс з "тройкамі" дзённік? А мо шчэ спраўны будзе палкоўнік?

•

Дзяржава — яна не гаспадарка калгаса, на вопыты ў нас мала часу. Дык што ж — шукаць нейкіх асаў? Не, зводзіць усё да ўзроўню калгаса.

•

Чорт садануў дзеда пад рабро. Дзед спяшаецца з маладзенькаю абняцца. А напісана ў метро: "Не прыхіляцца". Можа, і я падбрыкнуць гатоў, ды навошта пладзіць удоў? Еду з параю ў адным вагоне, зычу маладзёнам дабра, "Усход", мне выходзіць пара, а ваш цягнік, вясельныя птахі, ідзе, мабыць, да станцыі "Захад".

•

З Карэла Чапека. Мне б толькі знаць, казаў чарвяк, што чарвякі на небе, нічога іншага, сябры, мне ад жыцця не трэба.

•

Колькі на могілках новых алей — піць сталі болей, жыць сталі весялей.

•

У прыёмнай камісіі. "Здача дакументаў", "Прыём абітурыентаў", "Гутарка з дацэнтам", "Вызначэнне каэфіцыента"... — А дзе тут, сябар, здаюць хабар?

•

Я песіміст — пішу і баюся, што не паспею закончыць радок. І аптыміст — пішу ўсё ж!




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4428
Нумар падпісаны 5.7.1996 г.
Заказ 3331/Г

П 123456789 10 11 12
М 123456789 10 11 12